№ 9 (218) 26 лютага 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## ВАЙСКОВАЯ АПАЗЫЦЫЯ ЛУКАШЭНКУ

Передвыбарчы штаб генэрала Казлоўскага мае ўзначаліць генэрал Бачароў.

Старонка 2.

# перакур

**Лукашэнка ўсім надакучыў. Ён на экране, на карыкатурах, на сьценах. Абрыдла слухаць пра яго, упоперак горла стаяць ягоныя гістэрыкі, прытаміла змагацца зь ім. Ня хочацца ўдзельнічаць у ягоных палітінфармацыях, выбарах, пратэстах супраць яго і байкотах. Ня хочацца чуць.**

Грамадзкая апатыя набыла грозныя памеры. Беларусы ўжо ня хочуць, каб было "як раней". Беларусы яшчэ ня хочуць, каб было, "як у Польшчы й Літве". Беларусы проста нічога ня хочуць. Гэта лукашызм.

Лукашызм за сем гадоў уеўся ў кожную нашу клетку. Вырасла цэлае пакаленьне маладых, якія й ня ведаюць іншай рэальнасьці, апроч лукашэнкаўскай. Яна складаецца з паўсюднай – у эканоміцы і маралі — падвойнай бухгалтэрыі, з усіхнага хамства і з тэлебачаньня пасьля работы — скрынкі мрояў, поля цудаў. Дзеля гэтага – паўсюдны нігілізм. Для мільёнаў сама ідэя Беларусі без абрыдлага Лукашэнкі ўжо ўспрымаецца як фантастычная. "Гэтак не бывае".

З ідэяй пра вечнасьць свайго ворага звыкліся нават многія змагары зь ім. "Ну, не пераможам, але 15% пэўна зьбяром", — такія пэрліны можна пачуць у передвыбарчых штабах асобных кандыдатаў, што прэтэндуюць на ролю "адзінага". Змаганьне без канца, ад паразы да паразы, ад мітынгу да мітынгу, пачынае станавіцца змаганьнем дзеля змаганьня, дэманстрацыяй дзеля дэманстрацыі. Лукашэнка – нягледзячы на ўсе выбары, байкоты, шэсьці і грамадзянства БНР – застаецца. Бо такія "апазыцыянэры", што мараць пра 15%, ня здольныя патлумачыць людзям, у чым можа яшчэ заключацца перамога, апроч як у барацьбе за 15% галасоў. Такія апазыцыянэры не заўважаюць культуры, гістарычных вехаў, бо й самі жывуць ад зарплаты да зарплаты, ад пасяўной да ўборачнай. Хоць з вышыні гісторычных вехаў сёньняшняя апатыя – проста перакур.

Беларусы перакурваюць, думаюць сабе і ўсё больш усьведамляюць, што Лукашэнка супярэчыць усёй нацыянальнай істоце беларуса, з аднаго боку, і ўсёй рацыі сучаснае эканомікі, з другога. Што ён замахнуўся стаць царом Расеі і праляцеў. Ён банкрут. Ён гуляе толькі на апатыі й нігілізьме. Але хто б замяніў яго?

Апазыцыя стаіць перад складанай задачай: як абудзіць людзкую энэргію, калі да выбараў застаецца зусім нічога часу, а грамадзтва больш ня верыць у "збаўцаў" і вялікія ідэі? Самае дарагое, што беларуская палітыка страціла за часоў Лукашэнкі, – гэта свой ідэалізм, свае фундамэнтальныя каштоўнасьці, якія пакінула валяцца на шляху змаганьня. Калі стала граць паводле правілаў, на якіх трымаецца лукашызм, – падвойнай бухгалтэрыі, хамства і абагаўленьня тэлевізара. Народ глядзіць на такую апазыцыю і кажа — "ня бачу альтэрнатывы". І мае рацыю!..

Як вярнуць страчаныя ідэалы?

**Барыс Тумар**


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

тэма нумару:
**БЕЛАРУСКІ ХРЫСТОС, СУЧАСНЫ, ЯК БІЛ ГЕЙТС**
старонка 6

# Як мы правядзем лета?

## *Круглы стол у рэдакцыі "Нашае Нівы"*

**Што магло б стаць альтэрнатывай лукашызму? Якім мусіць быць кандыдат, каб людзі пабачылі ў ім альтэрнатыву? Ці можа Лукашэнка, застаючыся, прайграваць? Як будзем бавіць лета? Што можа абудзіць нашы жаданьні? Гэткія пытаньні гучалі за кадрам круглага стала ў рэдакцыі "НН". А ў кадры адказвалі на іншае пытаньне, толькі адно: чаго нам чакаць ад прэзыдэнцкіх выбараў?**

**Перакананыя, што толькі інтэлігенцыя можа даць рады грамадзкаму нігілізму і апатыі, мы запрасілі на гутарку ў рэдакцыю пісьменьнікаў Ўладзімера Арлова і Адама Глёбуса, перакладчыка Васіля Сёмуху, актора Віктара Шалкевіча, паэтаў Юр'я Гуменюка і Васіля Дзівашэвіча, філёзафа Алеся Анціпенку, а таксама аднаго зь лідэраў Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі Аляксандра Дабравольскага і кіраўніка гарадзенскага аб'яднаньня "Ратуша" Аляксандра Мілінкевіча, які, найхутчэй, узначаліць передвыбарчы штаб Сямёна Домаша.**

**Аляксандар Дабравольскі:** Я сустракаўся ў Вільні зь Зянонам Пазьняком і зразумеў, што ён, фактычна, ужо прымірыўся з тым, што Лукашэнка выйграе гэтыя выбары. Аднак Пазьняк ня ўлічвае, што грамадзкая думка за апошнія год-два вельмі зьмянілася. Людзі чакаюць пераменаў, хаця часта ня ведаюць, як гэтыя перамены могуць выглядаць і з кім іх зьвязаць, але больш чым 70% жадаюць, каб зьмены адбыліся. Сацыялягічныя апытаньні інстытуту Алега Манаева сьведчаць, што Лукашэнка пры нармальных дэмакратычных выбарах ужо сёньня ня выйграе — толькі 37% людзей могуць пагадзіцца з тым, што Лукашэнка застанецца прэзыдэнтам, а 43% катэгарычна сказалі "не". Але нават калі б у нас было менш шанцаў выйграць гэтыя выбары, адмаўляцца ад барацьбы – значыць аддаваць усе магчымасьці тым людзям, якім мы не даўяраем, якія зьнішчаюць беларускую дзяржаву, культуру.

**Алесь Анціпенка:** Найменей трэба чакаць расчараваньняў. Можна базавацца на апошніх сацыялягічных дасьледаваньнях, а можна на іх і не базавацца, каб адназначна сьцвердзіць, што адбываецца паступовы распад лукашэнкаўскага электарату. Мы няўхільна набліжаемся да новай сацыяльнай і палітычнай сытуацыі ў краіне. Ці супадзе падчас саміх прэзыдэнцкіх выбараў пік гэтага распаду з актывізацыяй другой часткі выбарцаў, схільнай падтрымаць другога (можа быць, дэмакратычнага) кандыдата, пакуль што сказаць цяжка. Шмат што тут будзе залежаць як ад дзеяньняў апазыцыі, гэтак і супрацьдзеяньня цяперашніх уладаў.

Адным зь "нечаканых" вынікаў можа стацца тое, што выбары ўвогуле не адбудуцца, гэтак жа сама, як не адбыліся выбары ў "палатку", бо людзі ня прыйдуць галасаваць. Другі варыянт — традыцыйны для беларускіх уладаў: Лукашэнка будзе "абраны" гэтай уладай, але вынікі такога "народнага волевыяўленьня", натуральна, ня будуць прызнаныя міжнароднай супольнасьцю. У любым выпадку — гэта станоўчыя вынікі. У першым выпадку Лукашэнка ня будзе прэзыдэнтам дэ-факта, а ў другім ён ня будзе прэзыдэнтам дэ-юрэ. Але яшчэ раз нагадаю пра галоўнае: распад лукашэнкаўскага электарату – працэс няўхільны і незваротны. Гэта ўжо яўна акрэсьленая тэндэнцыя на карысьць будучых пераменаў і новых асобаў пры ўладзе.

Калі ж гаворка ідзе пра перамогу адзінага кандыдата ад апазыцыі, дык яму перадусім неабходна адчуць менавіта дынаміку распаду электарату Лукашэнкі.

**Уладзімер Арлоў:** Калі адразу заняць паразьніцкую пазыцыю, ніякіх шанцаў ня будзе. Усе магчымасьці выбарчай кампаніі павінны быць выкарыстаныя. На жаль, нашая незалежная прэса, замест таго каб надаваць чытачам аптымізму, прагназуе паразу, шукае адказы на пытаньні, чаму той ці іншы кандыдат ня зможа перамагчы – адзін ня там нарадзіўся, у другога праблемы з бацькамі і г.д. Што б ні адбылося на гэтых выбарах, яны стануцца нейкім крокам наперад на шляху да той Беларусі, якая нам пакуль што толькі сьніцца. Мне таксама вельмі б хацелася, каб сярод кандыдатаў была жанчына. Напэўна, можна будзе казаць, што Беларусь вярнулася ў Эўропу, ці, паводле Валянціна Акудовіча, Эўропа вярнулася ў Беларусь, толькі тады, калі нашым прэзыдэнтам стане жанчына.

**Васіль Сёмуха:** Нібыта дачка Машэрава зьбіраецца балятавацца...

**У.Арлоў:** Калі Машэрава і мае такія амбіцыі, дык яе "патрон" іх своечасова згасіць.

**Юры Гумянюк:** Пазьняк, калі казаў пра адсутнасьць шанцаў на выбарах, меў на ўвазе хіба што сябе, бо ён насамрэч ня мае ніякіх шанцаў. Калі чалавек паліць масты, ад'яжджае і закідвае Беларусь факсамі, ён губляе кантроль над сытуацыяй, бо папросту ня ведае, што тут робіцца.

**Віктар Шалкевіч:** У мяне слухачы на канцэртах толькі адно пытаюцца – ці будзе альтэрнатыва? Мне здаецца, што той, хто выведзе Беларусь з тупіка, будзе дастаткова маладым чалавекам – прыгожым, добра прычасаным, у якога нармальная сям'я, нармальны дом, нармальная рэпутацыя. І, самае галоўнае, ён будзе страшэнна падабацца жанчынам. Гэты чалавек неўзабаве павінен зьявіцца, і мы, інтэлігенцыя, мусім яму дапамагчы. А калі апускаць рукі – лепей адразу зьбіраць валізы й прасіць палітычнага прытулку ў Вільні, Варшаве, Станах...

**Адам Глёбус:** У Вільні не даюць – і правільна робяць, дарэчы.

Працяг на старонцы 3.

Працяг са старонкі 1.

# Як мы правядзем лета?


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**В.Сёмуха:** Мне здаецца, што сямейнае становішча зусім не ўплывае на рэйтынг палітыка. Узяць таго самага Лукашэнку. Дый увогуле, усе гэтыя акуляры, вусы, прычоскі вельмі мала значаць для беларусаў.

**В.Шалкевіч:** Вы беларусаў недаацэньваеце. Я неяк пытаўся ў старой бабулькі, чаму яна прагаласавала за Лукашэнку, а не за Кебіча. А яна сказала так: "Дык чалавеча, той жа стары, а гэты – малады, вусаты, прыгожы!"

**У.Арлоў:** Я цалкам упэўнены, што калі б выбары ў нас былі дэмакратычныя, празрыстыя, Лукашэнка ні ў якім разе не перамог бы сёньня.

**А.Дабравольскі:** Цьвёрды электарат Лукашэнкі – 13—15%, катэгарычна супраць – больш за 30%. Астатнія ня вызначыліся. Мы па ўскосных зьвестках палічылі, як яны могуць вызначыцца. Атрымліваецца 40 – "за", 60 – "супраць". Адсюль вынікае, што Лукашэнка наўрад ці будзе пытацца ў народу, каго ён хоча бачыць прэзыдэнтам, бо ня здолее выйграць пры ўмове сумленных выбараў. Таму найперш трэба змагацца за сумленныя выбары.

**В.Сёмуха:** Калі ізноў, як на рэфэрэндуме, на трэці дзень спаляць бюлетэні і пакінуць толькі пратаколы, у якіх можна напісаць што заўгодна – як супрацьстаяць фальсыфікацыі? За Лукашэнкам жа ўвесь апарат стаіць.

**А.Дабравольскі:** Калі на кожным выбарчым участку будзе тры-чатыры назіральнікі, ніхто нічога не сфальшуе. Мы павінны перацягнуць на свой бок частку намэнклятуры, бо яна здасьць Лукашэнку адразу, як толькі пабачыць, што ён прайграе. Намэнклятура добра разумее, што Лукашэнка ахвяруе кім заўгодна, каб выратаваць сябе. І яны гатовыя да таго, што ў любы час на кожнага зь іх могуць надзець кайданкі па абвінавачваньні ў "нячэснасьці". У большасьці сваёй нашыя чыноўнікі – нармальныя людзі, яны рэальна могуць кіраваць дзяржавай. Дык навошта ім такая ўлада?

**В.Шалкевіч:** Калі ўсе сумленныя людзі на тры-чатыры месяцы запрагуцца і будуць працаваць на аднаго кандыдата, мы выйграем. У нас заўсёды было так: раскідалі ўлёткі – лічы, зрабілі справу. А іх ніхто не чытае. Трэба не раскідваць, а ехаць у рэгіёны, гаварыць зь людзьмі, асабіста пераконваць – тады будзе толк. Калі будзе нармальны перадвыбарчы штаб, там і разьбяруцца, каму што рабіць.

**В.Сёмуха:** Памятаю, калісьці пісьменьнікі езьдзілі, агітавалі, дык Пазьняк іх сам гразёю абліў...

**Адам Глёбус:** Досыць згадваць Пазьняка – гэта ўжо мінулы час. Пазьняк сказаў, што ня трэба ўдзельнічаць у выбарах, бо ён прайграў. Дый Лукашэнка кажа тое самае – бо ён, нібыта, ужо перамог. Дык каму тады патрэбныя гэтыя выбары? Усім астатнім, апроч гэтых двох. І нават калі ў нас не атрымаецца выйграць сёньня – атрымаецца заўтра, празь пяцьдзясят, сто гадоў. Мы мусім разьлічваць на доўгі шлях да Беларусі, таму трэба трэніравацца. Практыкавацца ў палітыцы, быць актыўнымі.

**В.Дзівашэвіч:** Простыя людзі ня думаюць пра фальсыфікацыі, у іх кожны кандыдат асацыюецца з пэўным сцэнарам разьвіцьця падзеяў: маўляў, прагаласуем за апазыцыю – будзе як ва Ўкраіне, прагаласуем за Чыгіра – будзе як у Расеі, за Лукашэнку – будзе так, як цяпер, ня горай і ня лепей. Трэба паказаць ім, што ёсьць і іншыя шляхі.

**А.Дабравольскі:** Наша мэта ня ў тым, каб замяніць дыктатара, а ў тым, каб стварыць такую судова-прававую сыстэму, якая не дазволіла б дыктатару наноў зьявіцца. На жаль, Канстытуцыя 1994 г. дазваляла... Але дыктатараў спараджаюць ня толькі заканадаўства і права, але й людзі, якія за іх галасуюць. Асноўная праблема нашага грамадзтва, што і прывяло Лукашэнку да ўлады, – зайздрасьць і нежаданьне адказваць за сябе. Такім чынам, мы не адказваем і за краіну. І задача культурнай эліты, якая нейкі час была ў стане дэпрэсіі, як і ўсе палітыкі, — дапамагчы людзям зразумець, што ёсьць ня толькі падставы для аптымізму, але й магчымасьць зрабіць штосьці для сябе і для краіны. Я бачу ролю інтэлігенцыі ня ў тым, каб працаваць у штабох кандыдатаў. Людзі, якія яшчэ ня вызначыліся з выбарам, будуць шукаць, у каго спытаць парады ў апошні момант, – і ў першую чаргу зьвернуцца да аўтарытэтных людзей.

**Адам Глёбус:** Будзе піар – і чорны, і шэры,— але, канечне, зьвернуцца і проста да інтэлігенцыі, да прафэсіяналаў распаўсюджаньня інфармацыі... Цяпер рыхтуецца такі піар, нібыта Ванга, яшчэ калі была жывая, прадказала, што Лукашэнка пераможа.

**У.Арлоў:** Дый Каштуніца атрымаў ня менш за 10% галасоў, дзякуючы "прадказаньню".

**В.Сёмуха:** А ў культурнай эліты няма яўных лідэраў...

**В.Шалкевіч:** А што інтэлігенцыя? У нас увогуле дзіўныя рэчы адбываюцца. Зьнялі Мазынскага – усё ціха, адразу знайшлася замена. Мазынскага пабілі – таксама нічога не зьмянілася. Я згадваю 80-я гады, калі ў Польшчы акторы папросту ня йшлі на тэлебачаньне, адмаўляліся здымацца, абвясьцілі сапраўдны байкот.

**У.Арлоў:** У палякаў мэнтальнасьць іншая. А ці зьмянілася беларускае грамадзтва ў параўнаньні з пачаткам 90-х, каб з прыходам новага прэзыдэнта ў нас адбыліся нейкія карэнныя зьмены? Сумняюся.

**В.Шалкевіч:** У нас традыцыйна не прывыклі спадзявацца на ўласныя сілы. Усе чакаюць, калі прыйдзе нейкі асілак і пераможа цмока.

**Адам Глёбус:** Нам патрэбен асілак, які пераможа цмока. Адзінае, што шмат хто з асілкаў потым у цмока і ператвараецца. Але гэта ўжо філязофская праблема. Давайце спынімся на тым, што нам патрэбен чалавек, які скажа: так, я асілак, і мы за яго дакладна прагаласуем. І рана ці позна ён зьявіцца. І цмок гэта ведае.

**А.Дабравольскі:** Зайздрасьць і нежаданьне за сябе адказваць, на жаль, яшчэ пануюць у грамадзтве, таму можа ізноў зьявіцца кандыдат, падобны да Лукашэнкі сваімі паводзінамі й сьветапоглядам. Аднак копія заўсёды горшая за арыгінал. Таму мы маем шанцы, бо наш кандыдат будзе мець цалкам супрацьлеглыя вартасьці. Дарэчы, Андрэй Вардамацкі агучыў нядаўна вынікі сваіх дасьледаваньняў – якія якасьці людзі хацелі б бачыць у прэзыдэнта. Першае – патрабавальнасьць, другое – адукаванасьць і трэцяе – інтэлігентнасьць. Гэта было зусім нечакана.

**Адам Глёбус:** Хамства, хабёльства на самым высокім дзяржаўным узроўні ўсё ж такі абрыдла людзям.

**А.Дабравольскі:** Насамрэч, неістотна, каго менавіта абяруць прэзыдэнтам. Галоўнае, каб ён быў псыхічна нармальным, каб адчуваў адказнасьць за краіну і ня думаў, што ведае ўсё, каб слухаў разумных людзей. І гэтага дастаткова.

**Адам Глёбус:** Мне хацелася б, каб прэзыдэнтам зрабіўся чалавек кшталту Быкава. Шкада, што ў нас ёсьць абмежаваньні веку – я б з задавальненьнем за яго прагаласаваў. Але гэта ў ідэале, а ў сёньняшніх абставінах я буду галасаваць за Домаша. Прэзыдэнт павінен адпавядаць сярэднестатыстычнаму ўзроўню – і па адукацыі, і па паводзінах – а гэты ўзровень не такі нізкі, як здаецца...

**А.Дабравольскі:** З кандыдатурай Домаша пагадзіцца лёгка, бо гэты чалавек можа кіраваць дзяржавай. Добра кіраваць. Але нельга казаць, што найлепшы кандыдат – сярэдні. Для таго, каб быць абраным, чалавек павінен адрозьнівацца ад большасьці. Людзі ніколі не павераць, што сярэдні чалавек можа вырашыць нашыя праблемы.

**У.Арлоў:** У першыя гады Лукашэнкавага прэзыдэнцтва досыць папулярнай была ідэя вяртаньня да парлямэнцкай рэспублікі. Або каб прэзыдэнт меў толькі прадстаўнічыя функцыі. Якраз такім прэзыдэнтам добра было б абраць Быкава. Але цяпер палітычныя эліты, відаць, адмовіліся ад тае думкі.

**А.Дабравольскі:** Не, неабходнасьць абмежаваньня паўнамоцтваў прэзыдэнта не выклікае пярэчаньняў у асяродзьдзі палітычнай эліты. Узорам тут могуць стацца літоўская й польская сыстэмы ўлады, дзе прэзыдэнт мае даволі значныя паўнамоцтвы, але адказвае за свае дзеяньні перад парлямэнтам. Але мы, відаць, яшчэ не падрыхтаваныя да такога.

**В.Шалкевіч:** У нашага народу ў галаве страшэнная мешаніна. Пагаварыце зь сярэднестатыстычным беларусам, я думаю, ён празь пяць хвілінаў заблытаецца і скажа: "А пайшлі вы з вашай парлямэнцкай рэспублікай..." Але ёсьць нейкія агульнаэўрапейскія ўяўленьні пра дабрабыт: каб праца была, каб нармальна плацілі і каб ніхто не чапаў. Калі зьявіцца кандыдат, які пераканае грамадзтва, што здолее гэтага дасягнуць, я за яго буду галасаваць.

**У.Арлоў:** Мне ўяўляецца лягічным, калі будзе некалькі кандыдатаў – на другім туры астатнія здымуцца самі сабою.

**А.Дабравольскі:** Некалькі кандыдатаў – гэта поўная гарантыя паразы, бо я не спадзяюся, што другі тур будзе наагул. Дый кандыдат – гэта ня проста чалавек, які захацеў быць прэзыдэнтам. Ён для гэтага мае яшчэ й амбіцыі, ён змагаецца, знаходзіць сродкі, укладае іх у збор подпісаў, у агітацыю; і людзі, якія дадуць яму гэтыя сродкі, будуць спадзявацца, што менавіта ён і зробіцца прэзыдэнтам. А тут – неабходнасьць зьняць сваю кандыдатуру, пахаваць укладзеныя сродкі. Дык што ён скажа гэтым людзям? Як згасіць свае амбіцыі? Я папросту ня веру, што нехта зможа зьняць сваю кандыдатуру перад выбарамі – і чым бліжэй да выбараў, тым цяжэй яе будзе зьняць. Таму вельмі важна як мага раней вызначыцца з адзіным кандыдатам. І яшчэ вельмі важны факт: людзі чакаюць аднаго, для іх гэта павінен быць просты выбар – Лукашэнка або альтэрнатыва яму — і мы мусім ім дапамагчы людзям устаць перад простым выбарам, а ня ставіць перад імі праблему выбару зь пяці прэтэндэнтаў.

**Аляксандар Мілінкевіч:** У апазыцыі ёсьць вялікі шанец перамагчы. Сёньняшні кіраўнік дзяржавы можа часова застацца пры ўладзе, толькі татальна фальсыфікуючы вынікі выбараў. У вёсцы на мяжы Беларусі і Літвы, дзе пахаваны мае дзяды-прадзеды, яшчэ год таму казалі: "Лукашэнка добры, але яму перашкаджаюць". Сёньня ў шчырай размове вы пачуеце: "Ён хлусіць, ня выканаў ніводнага абяцаньня.... Але дзе ўзяць лепшага?"

Гэтага лепшага трэба вызначыць і прадставіць тым, каму ўжо надакучыў палітычны тэатар з адным акторам. У Беларусі многа ініцыятываў па вылучэньні адзінага кандыдыта, але рэальная шырокая Кааліцыя адна — Кангрэс Дэмакратычных Сілаў. Шэраг лідэраў апазыцыі, што не ўваходзяць у гэты блёк, дрэнна разумеюць рэальную магутнасьць Кангрэсу. Яго шырокія магчымасьці зьвязаныя перш за ўсё ня толькі з партыямі і прафсаюзамі, але і зь лякальнымі і рэгіянальнымі грамадзкімі арганізацыямі, якіх больш за 500 і сетка якіх пакрывае ўсю краіну. Менавіта створаныя на лякальным узроўні кааліцыі грамадзкіх арганізацыяў, прафсаюзаў і партыяў, якія ўтварыліся ў мінулым годзе, складуць аснову будучых штабаў адзінага кандыдата. У добрай палове раённых цэнтраў такія ініцыятыўныя групы ўжо існуюць і гатовыя працаваць.

Самая вялікая небясьпека для дэмакратычнай апазыцыі сёньня — гэта небясьпека стварэньня атмасфэры пэсымізму ў грамадзтве. Ёсьць сілы, ёсьць розум, ёсьць людзі. На нас ускладзена вялікая гістарычная адказнасьць аб'яднаць усіх сумленных і неабыякавых і падтрымаць іх дух. З гледзішча мастацтва палітычных кампрамісаў КРДС паводзіць сябе мудра, аднак яна не апраўдвае чаканьняў і пачынае расчароўваць лякальныя кааліцыі, якія даўно гатовыя дзейнічаць. Гэтым жа грашаць некаторыя незалежныя СМІ: або "сьвятая каша" на старонках, або разбуральны нігілізм.

Мая парада лідэрам палітычных партыяў і рэдактарам нацыянальных недзяржаўных газэтаў: каб набрацца аптымізму, часьцей выяжджайце за межы менскай кальцавой дарогі. У рэгіёнах беларуская дэмакратыя мае прывабны твар, жывыя вочы і выпрастаныя плечы.

**У.Арлоў:** Выбар адзінага кандыдата можа адбыцца на Кангрэсе Дэмакратычных Сілаў?

**А.Дабравольскі:** А Кангрэс наагул ці варта праводзіць? Зараз нам трэба шырокая падтрымка самых розных людзей – у тым ліку і тых, што не належаць да арганізацыяў, прадстаўленых на Кангрэсе. Трэба дзейнічаць па ланцужку – адна арганізацыя падтрымала, другая і г.д. Ёсьць шмат людзей, якія яшчэ ня вызначыліся ці маюць іншыя палітычныя погляды, але гатовыя прагаласаваць за перамены, бо яны патрэбныя краіне.

**Адам Глёбус:** Проста за перамены ў лепшы бок.

***Віктар Шалкевіч:***

***Калі ўсе сумленныя людзі на тры-чатыры месяцы запрагуцца і будуць працаваць на аднаго кандыдата — мы выйграем, хлопцы***

***Адам Глёбус:***

***Нават калі ў нас не атрымаецца выйграць сёньня — атрымаецца заўтра, празь пяцьдзесят, сто гадоў. Мы мусім разьлічваць на доўгі шлях да Беларусі***



# Андрэй Бабіцкі: “Уяўленьне пра цэнтрабежныя тэндэнцыі ў Расеі перабольшанае”

**Карэспандэнта Радыё Свабода Андрэя Бабіцкага за аб’ектыўнае асьвятленьне расейскай вайны супраць Чачэніі грамадзтва Расеі адрынула. Улады абвінавацілі яго ў супрацоўніцтве з ворагам і не дазволілі аргумэнтаваць сваю пазыцыю. Ён мусіў пакінуць краіну і цяпер працуе ў Празе.**

**“НН”: Як так атрымалася, што ворагам Расеі стаў цэлы народ — чачэнцы?**

А.Б.: Я думаю, што тут прычына не ў расейцах, а ў новай Расеі. Бо і першая, і гэтая вайна ў Чачэніі — вынікі абсалютна няўдалага палітычнага праекту зь няўдала абранай ахвярай. Што да чачэнцаў, дык іх нельга вымяраць нейкімі звычайнымі катэгорыямі сацыяльнасьці. Чачэнцы ўспрымаюць уладу як нешта неарганічнае, прымусовае. Зараз Расея спрабуе сканструяваць у Чачэніі штосьці падобнае да мясцовых адміністрацыяў. Я перакананы, што нічога не атрымаецца, бо чачэнцы не прымаюць дзяржавы як лад жыцьця, і будуць яе выкарыстоўваць, толькі пакуль гэта будзе ім выгодна. Праблема найперш у адсутнасьці пэрспэктывы збліжэньня Расеі й Чачэніі... Наадварот.

**“НН”: А чаму гэтае збліжэньне мусіць адбывацца?**

А.Б.: Цягам доўгіх дзесяцігодзьдзяў і расейцы, і іншыя народы, якія жылі на тэрыторыі Расеі, Савецкага Саюзу, у значнай ступені аднолькава пакутавалі ад камуністычнай улады. На гэтай аснове збліжэньне было магчымым — пасьля распаду СССР. Супярэчнасьці пачалі ўзьнікаць падчас першай вайны. Трэба сказаць, што Ельцыну за кошт Хасаўюртаўскага пагадненьня ўдавалася мікшаваць сытуацыю. Сёньня спробы наладзіць дачыненьні з Чачэніяй будуць вельмі дарагімі. Трэба караць вінаватых у чачэнскіх злачынствах, аднаўляць дзейныя інстытуты судовай улады, каб у людзей было адчуваньне абароненасьці. Увогуле, пакуль ня будзе прызнана, што ў Чачэніі чыніліся ваенныя злачынствы, злачынствы супраць чалавецтва, пра нармальныя дачыненьні паміж Расеяй і Чачэніяй гаварыць нельга. Пакуль пры ўладзе Пуцін, я такой магчымасьці ня бачу, дый вайна будзе працягвацца. Уся сытуацыя закансэрваваная пуцінскай уладаю і ня мае іншых шляхоў разьвіцьця.

**“НН”: Вы часам узгадваеце імя Пінача, калі гаворыце пра адказнасьць расейскіх уладаў за зробленае ў Чачэніі. Вы верыце ў тое, што калі-небудзь вінаватых будуць судзіць?**

А.Б.: Невядома, ці патрапіць Пінача пад суд. Ён проста чакае на пазоў. Аднак у яго кепская старасьць: ён памірае не героем, не чалавекам, якому ўдалося зьдзейсьніць бліскучую эканамічную рэформу, а забойцам, на сумленьні якога дзясяткі, паводле юрыдычнага абвінавачваньня, а ў рэальнасьці — сотні бязьвінных ахвяраў. Я думаю, што й Пуціну не дадуць забыцца пра зробленае ім у Чачэніі. Праўда, верагоднасьць нейкага судовага ці крымінальнага перасьледу нікчэмная, бо ён лідэр вялізарнай дзяржавы... Можа, хоць праз дзесяць, дваццаць, трыццаць гадоў гэта азмрочыць ягоныя пэрспэктывы.

**“НН”: Чаму расейская інтэлігенцыя фактычна змаўчала, праглынула вайну супраць Чачэніі?**

А.Б.: Расейская інтэлігенцыя ня проста прамаўчала, яна падтрымала ў значнай ступені дзеяньні ўладаў. Гэтаму ёсьць вельмі зразумелае тлумачэньне. З аднаго боку, тое, што адбывалася ў Чачэніі цягам трох перадваенных гадоў, — бандытызм, цяжкія злачынствы супраць асобы, выкраданьне людзей, катаваньні закладнікаў – усё гэта не магло не пазбавіць інтэлігенцыю сьветлага вобразу чачэнца, які ваюе за ўласную свабоду. Бо маштабы сталі фантастычныя. Фактычна ўся Чачэнія была заангажаваная ў гэты бізнэс. Цэлыя вёскі займаліся рэалізацыяй закладнікаў: нехта выкрадаў, нехта перахоўваў, нехта быў пасярэднікам, нехта перавозіў. Натуральна, новая расейская ўлада правяла вельмі добрую прапагандысцкую кампанію, пераканала інтэлігенцыю, што чачэнскія радыкалы ўяўляюць сабой рэальную пагрозу для Расеі. Удалым прыкладам сталася ўварваньне ў Дагестан — рэальная спроба зьдзейсьніць пераварот у сумежнай рэспубліцы. Пуцін, я думаю, шчыра верыць, што падобныя дзеяньні пагражаюць будучыні расейскай дзяржавы. Рэальнасьць паказала: усе гэтыя сілы – абсалютна маргінальныя. Паглядзіце, як хутка выбілі Басаева з Дагестану. Ён ня думаў, што сутыкнецца з такім супраціваў, а гэта якраз і сьведчыць пра маргінальнасьць задумы вахабіцкага руху ў Чачэніі і Дагестане – ніякай сур’ёзнай пагрозы яны не ўяўляюць. А вось выбухі ў Маскве траўмавалі Расею ў такой ступені, што вайна дагэтуль лічыцца справядлівай. І людзі працягваюць падтрымліваць Пуціна, хаця кожны дзень гінуць 3—10 жаўнераў.

Я ня ведаю, хто нясе адказнасьць за выбухі. Тут можа быць надта складаная схема, апасродкаваная, за кошт інфільтрацыі чужаніцаў. Зрэшты, яшчэ паўгоду таму ФСБ сьцьвярджала, што вядомыя ўсе выканаўцы, толькі некаторых не ўдалося злавіць. Дык чаму ж няма судовага працэсу? Чаму няма сьледзтва? Чаму грамадзкасьць пазбаўленая магчымасьці ўведаць, хто рэальна стаіць за гэтымі выбухамі?

Побытавы расізм, тыповы для расейскіх гарадоў, цяпер зрабіўся

> *“Мне здаецца, што Грозны ўжо ніколі не падымецца. Гэты горад застанецца помнікам тым злачынствам, якія Расея ўчыніла ў Чачэніі”*

часткай афіцыйнай дактрыны. Гэтак, адзін псыхоляг напісаў, што чачэнцы – кепскі народ, ледзьве не генэтычна запраграмаваны на злачынствы. Зьяўляюцца публікацыі пра тое, што чачэнскія культура, этыка спрыяюць злачынствам. І гэтая тэза зрабілася адным з ляйтматываў прапагандысцкай кампаніі. Сёньня значная частка расейцаў перакананая, што чачэнцы – злачынцы, што іх трэба ўсіх зьнішчаць – і малых, і дарослых.

**“НН”: Беларусь дрэнна інфармаваная што да рэакцыі іншых народаў Каўказу на ўварваньне Расеі ў Чачэнію... Ці можа выбухнуць Каўказ?**

А.Б.: Наўрад ці. Чачэнцы прэтэндавалі цягам некалькіх гадоў на ролю экспартэра рэвалюцыі для ўсяго Паўночнага Каўказу, аднак гэтая роля правалілася ў Дагестане. Чачэнцаў ня дужа любяць на Каўказе. Яны – самы шматлікі этнас, які



ўсьведамляе сябе гегемонам Паўночнага Каўказу і ня лічыць патрэбным камусьці падпарадкоўвацца. Гэта вельмі добра адчуваюць іншыя рэспублікі Паўночнага Каўказу – Кабардзіна-Балкарыя, Дагестан, Карачаева-Чаркесія, дзе ўлада мае характар усходніх аўтакратыяў. Чачэнія мае абсалютна ўнікальны лёс. І ніхто ў Расеі зараз не пажадаў бы паўтарыць досьвед чачэнцаў.

Мне здаецца, што ўяўленьне пра цэнтрабежныя тэндэнцыі ў Расеі вельмі перабольшанае. Але Чачэнія, думаю, страчаная для яе канчаткова. Магчыма, што ў нейкай аддаленай пэрспэктыве гэта будзе пачаткам цэнтрабежных працэсаў. Расея ў тым выглядзе, у якім яна цяпер існуе — гэта дзяржаўнае ўтварэньне, якое жыве й дзейнічае сабе на шкоду.

**“НН”: Наколькі аб’ектыўная інфармацыя пра тое, што на баку чачэнцаў ваявалі ня толькі найміты, але й добраахвотнікі, кіраваныя ідэалягічнымі прычынамі?**

А.Б.: Так, і іх было шмат. Напрыклад, украінцаў – дзясяткі. Былі прадстаўнікі іншых паўночнакаўкаскіх народаў, прыбалты, туркі, арабы. Я нават сустракаў амэрыканца – чачэнца з Амэрыкі, які непасрэдную сувязь з Чачэніяй быў страціў, але з Сыэтлу прыехаў ваяваць, хадзіў у самбрэра. Але ў цэлым чачэнскі супраціў як быў чачэнскім па сутнасьці і этнічным складзе, так і застаўся. Ёсьць добраахвотнікі, ёсьць найміты, але наймітаў, якіх бы наймала само чачэнскае войска, — фактычна няма. Бо чачэнцы хутчэй самі раскрадуць тыя грошы, якія ім дадуць, чым купяць дапамогу.

**“НН”: Ці не маглі б Вы акрэсьліць Ваш статус у Чачэніі, статус сярод чачэнскіх байцоў?**

А.Б.: Я пражыў у Чачэніі каля трох гадоў. У мяне – унікальная для журналіста сытуацыя: па-першае, чачэнцы вельмі актыўна слухалі Радыё Свабода падчас першай чачэнскай кампаніі, бо гэта была адзіная крыніца інфармацыі, якой яны давяралі; па-другое, я і мой калега Саша Еўтушэнка многа езьдзілі, за тыдзень мы аб’яжджалі ўсе франты, якія, збольшага, былі згрупаваныя на поўдні. Мы адкрыта выказвалі сваё стаўленьне да абодвух бакоў, гаварылі пра недахопы і станоўчыя моманты, таму гэтае права гаварыць адкрыта пра тое, што ты думаеш, фармавалася ад пачатку і сталася правам, прызнаным у Чачэніі. Мяне там ведаюць многія палявыя камандзеры, ці ня ўсе, і гэта вельмі зручна для працы. Бо чачэнцы звычайна бяруць журналістаў пад строгую апеку, спрабуюць кантраляваць выходны прадукт. У маёй сытуацыі гэтага не было, я працаваў абсалютна свабодна і ніколі не абмяжоўваў сябе ў выбары выразаў і ацэнкі.

**“НН”: Ці ёсьць у Вас сябры у Чачэніі? Ці можна зь імі кантактаваць?**

А.Б.: Мой самы блізкі сябар зьнік, я нічога не магу даведацца пра яго, ён меў пэўнае дачыненьне да супраціву. Пасьля таго як быў здадзены Грозны, ён, відаць, пакінуў горад, і дзе знаходзіцца цяпер — я спрабаваў рознымі шляхамі гэта высьветліць, але не ўдалося. У мяне яшчэ ёсьць некалькі сяброў, кантакт падтрымліваць немагчыма, бо сувязі няма, а праз кагосьці – таксама складана, журналістаў туды сёньня езьдзіць мала.

**“НН”: Вы казалі, што мэтад апэрацыі ў Чачэніі – гэта мадэль таго, што Расея можа зрабіць у любой сфэры і на любой тэрыторыі. Ці я дакладна зразумела?**

А.Б.: Так, Пуцін ідэалізуе сілавыя мэтады. Ён лічыць, што сілай можна разьвязаць праблемы, якім ужо шмат дзесяцігодзьдзяў. І гэтая рамантызацыя сілы дастаткова лінейная, бо яна адчуваецца ня толькі ў Чачэніі, але й, скажам, у выпадку з НТВ. Такі дэманстрацыйны, відавочны гвалт у дачыненьні да СМІ ня меў сэнсу. Калі Пуціну задача падасца дастаткова важнай, як гэта было з Чачэніяй, ён здольны выкарыстаць сілу, адкінуўшы ўсе дэмакратычныя вартасьці, якія насамрэч не зьяўляюцца для яго базавымі.

**“НН”: Што-небудзь засталося ад Чачэніі? Часам здаецца, што бамбаваньні зьнішчылі яе дашчэнту.**

А.Б.: Натуральна, засталося. Чачэнцы адбудоўваюць свае паселішчы імгненна. Яны неверагодна прывязаныя да жытла, да свайго гнязда. Я бачыў вёскі, разбураныя дашчэнту ў першую вайну, а, калі праз два-тры месяцы праяжджаў там зноўку, усё было наноў адбудавана – гэта ўражвае. Грозны ж разбураны цалкам, мне здаецца, што ён ужо ніколі не ўзьнімецца. Гэты горад застанецца помнікам злачынствам, зьдзейсьненым Расеяй у Чачэніі... Але як рэспубліка, у якой былі гарады, была камунікацыйная структура, дарогі, – у гэтым сэнсе Чачэнія фактычна не існуе.

**“НН”: Андрэю, прадстаўнікі расейскіх вайсковых структураў хаця б мінімальна разумелі сутнасьць Вашай журналісцкай працы?**

А.Б.: Не, разуменьня не было. Армія ж дастаткова проста ўяўляе сабе сытуацыю. Тут – інтарэсы Расеі. Там – вораг. Усе, хто па той бок, так ці інакш – чужыя. Акрамя таго, у мяне не было магчымасьці дастаткова шырока патлумачыць сваю пазыцыю, таму бальшыня вайскоўцаў падзяляюць стаўленьне ўладаў. Аднак, я не крыўдую, бо ўсе абвінавачаньні былі хлусьлівымі. У чым мяне абвінавачвалі? У тым, што я абараняю ворага. Я лічу, што сярод матываў, якія штурхаюць чачэнцаў супраціўляцца расейскай ваеннай групоўцы, ёсьць жаданьне захаваць чалавечую годнасьць, вырашыць праблему бясьпекі. У прынцыпе, калі б паўстала пытаньне правамернасьці супраціву, дык у шэрагу выпадкаў ён быў бы апраўданы як неабходная абарона.

**“НН”: Калі Вы былі ў руках расейскіх спэцслужбаў, ці існавала пагроза Вашаму жыцьцю?**

А.Б.: Я думаю, што пагроза жыцьцю была. Наколькі вялікая – мне цяжка меркаваць. Асноўнай ідэяй усё-ткі была дыскрэдытацыя: трэ было любым спосабам давесьці слушнасьць абвінавачаньняў супраць мяне – у супрацоўніцтве зь незаконнымі ўзброенымі фармаваньнямі і г.д. Тым, хто мяне ўзяў і ўтрымліваў, па ўказаньні Крамля, было няважна, якімі мэтадамі я буду дыскрэдытаваны. Галоўным было даказаць, што я – вораг, неістотна, жывы ці мёртвы.

**“НН”: У Беларусі быў прэцэдэнт, калі карэспандэнта НТВ Аляксандра Ступнікава прымусілі зьехаць. Праводзіць яго на вакзал прыйшло шмат журналістаў...**

А.Б.: Мяне ніхто не праважаў. Галоўнае, я й не хацеў гэтага, бо тады падзея мела б крыху іншае значэньне. Для мяне ад’езд у Прагу – толькі тэхнічнае перамяшчэньне.

**“НН”: Вы сказалі, што асьвятляючы вайну, пачынаеш чытаць Біблію...**

А.Б.: Гэта сказаў Савік Шустэр, дырэктар расейскае службы Радыё Свабода...

**“НН”: Вы гэта паўтарылі.**

А.Б.: На вайне адчуваньні Бога і веры ў Бога абвастраюцца, бо ты заўсёды знаходзішся ў сытуацыі небясьпекі. Калі няма адчуваньня, што нехта нябачны дапамагае табе, сытуацыя можа здавацца абсалютна безвыходнай.

Пры сутыкненьні з такой колькасьцю, з такім аб’ёмам людзкіх пакутаў зьнікаюць аднамерныя адчуваньні жыцьця, бо калі ўявіць, што гэтае гора замкнёнае на табе і што яно застаецца ў межах гэтага сьвету, — то яго немагчыма перажыць. Дзесьці мусіць быць пазбаўленьне і выкупленьне.

Увогуле, мне ня дужа падабаецца, калі гучыць такі патас у дачыненьні да маёй сытуацыі. Шчыра кажучы, тая роля, якую я змушаны выконваць, не зусім мая. Я ня быў падрыхтаваны да гэтай раптоўнай вядомасьці. Мяне абсалютна задавальняў той лад жыцьця, які я меў да таго, як усё гэта здарылася.

**Гутарыла Вольга Караткевіч**

*Нашыя ўяўленьні пра "беларускі крымінальны сьвет", "польскі" ці "нямецкі крымінальны сьвет" амаль заўжды перабольшаныя. У страху і ў фантазіі вялікія вочы. Беларускі злачынны сьвет – правінцыйная філія расейскага. Польскі й нямецкі проці расейскага здаюцца проста дзіцячымі. А ў Расеі рэальнасьцю сталі нашыя самыя страшныя ўяўленьні. «Беспредел», закон вуліцы, невераготная жорсткасьць пры неймавернай квапнасьці, пагарда да любога закону і права – божага й чалавечага... Цэлая цывілізацыя, выгадаваная на турэмных вартасьцях, вырасьлая з маскоўскае дэспатыі, з апрычніны, з царскай катаржнай Сібіры, зь вялікай сталінскай – на паўкраіны, на паўнароду – зоны. І ўсё гэта пануе, размнажаецца, культывуецца.*

*Большасьць беларусаў, як і большасьць эўрапейцаў, ведае Расею па Маскве, па Краснай плошчы, па Пушкінскім музэі і Траццякоўцы. Варта пакінуць Маскву, як пачынаецца іншы сьвет, дзе няма ні права, ні закону. Нам гэта дзіка. Страшна чытаць гісторыі, якімі поўніцца расейская прэса. Вусьцішна, але трэба. Каб ведаць, з чым маем справу.*

*Расейскі крымінал – страшная пагроза ня толькі парадку на беларускіх вуліцах, але й самім асновам эўрапейскае цывілізацыі, ці не найвялікшая стратэгічная пагроза бясьпецы ў Эўропе і сьвеце. Менавіта гэта мела на ўвазе памочніца Джорджа Буша па нацыянальнай бясьпецы Кондалайза Райс, гаворачы пра пагрозу сьвету, што сыходзіць ад Расеі. З Расеі пра Расею гэтым разам піша аглядальніца Інтэрнэт-газэты www.gazeta.ru Ганна Архіпава.*

# Ніводная ахвяра ня здолела зьбегчы

**У 1992 г. у Кемераўскай, Алтайскай і Новасібірскай вобласьцях пачалі зьнікаць маладыя дзяўчаты. Гісторыі, якія распавядалі іхныя сваякі і знаёмыя, былі падобныя адна да адной. Звычайна дзяўчына атрымлівала ад незнаёмых маладзёнаў вабную прапанову папрацаваць у Новасібірску, зьяжджала з дому, і ніхто з сваякоў яе болей ня бачыў.**



Праваахоўныя органы не маглі высачыць банду дзевяць гадоў. Злачынцы вандравалі па ўсёй Заходняй Сібіры, перыядычна зьмяняючы пашпарты, пасьведчаньні, жытло. У адным Новасібірску яны зьмянілі каля 400 наймальных кватэраў. Затрымаць іх дапамог выпадак. 12 лютага 2001 г. апэратыўнікі атрымалі інфармацыю, што ў Новасібірску невядомыя трымаюць у закладніках маладую дзяўчыну. 13 лютага злачынцы былі затрыманыя супрацоўнікамі УБОПу (Упраўленьня па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю).

Усе бандыты аказаліся беспрацоўнымі жыхарамі Новасібірску. Іх верхаводу – 27 гадоў, астатнія — крыху маладзейшыя. Была ў складзе банды й дзяўчына, каханка верхавода. Яе затрымалі крыху пазьней у Алтайскім краі.

Сьледчыя высьветлілі, што за 8 гадоў злачынцы выкралі больш за 60 жанчынаў у веку ад 16 да 25 год, лёс якіх дагэтуль невядомы. Скрадзеных кабетаў прымушалі здымацца ў парнаграфічных стужках, у тым ліку й са сцэнамі садамазахізму. Дый самі злачынцы бралі актыўны ўдзел у стварэньні фільмаў – ня толькі як рэжысэры й апэратары, але і як акторы. Порнакасэты прадаваліся ўва ўсёй Расеі (пакупнікоў злачынцы найчасьцей знаходзілі праз Інтэрнэт). Бандыцкай відэаапаратуры міліцыя пакуль не знайшла.

"Цікава, што ніводная ахвяра ня здолела зьбегчы, – паведаміла карэспандэнту "Газеты.Ru" прэс-сакратар УБОПу Навасібірскай вобласьці Алена Абрамава. – Уцякачак заўсёды лавілі й жорстка зьбівалі". Вэрбавалі дзяўчат па-рознаму. Напрыклад, запрашалі працаваць гувэрнанткай альбо сядзелкай да падстаўной асобы. Праз пару дзён прыносілі дзяўчыне таблеткі, каб тая давала іх піць той "старэчы". Падстаўная асоба ў нейкі момант імітавала сьмерць. "Працадаўцы" вінавацілі дзяўчыну ў забойстве і пад пагрозай "здаць" у міліцыю прымушалі рабіць усё, што ім было патрэбна.

Калі ахвяра супраціўлялася, яе забівалі. Затрыманыя ўжо ўзялі на сябе каля ста эпізодаў разбойных нападаў, рабаваньняў і забойстваў. У прыватнасьці, распавялі сьледчым пра адно з апошніх сваіх забойстваў. Пад гаражом, што належаў аднаму з бандзюкоў, міліцыянты знайшлі труп 17-гадовай жыхаркі Барнавулу Ірыны Сяровай, што ўвосень прапала бязь вестак.

Сёньня сьледчыя актыўна шукаюць ахвяраў злачыннай групоўкі.



Юрась Пацюпа

## Паданьне

Быў прыкуты даўней Прамэтэй
да сьняжыстай
Каўкаскай гары –
там ён, кажуць,
пакінуў дзяцей,
там агонь яго ў саклях гарыць.

Да панадзіўся ў саклі лятаць
дзьвюхгаловы расейскі арол
і дзяцей Прамэтэя хапаць –
зьнюхаў, пёс, што
адважная кроў!

Ды і ноч не хацела мінаць,
каб хоць гора між гор загаіць,
бо арол, прыляцеўшы зьвідна,
да зьмярканьня
ня стоміцца піць.

Але ёсьць і ў нядолі канец:
кажуць, выкуе Сонца стралу,
каб за морам узьняў Геркулес
і пусьціў яе ў грудзі арлу.

**Горадня, 2000 год**

# Расейскія матывы

Адам Глёбус

### САМАСЬЦЬ

Раздражнае расейская самасьць. Мы самыя вялікія, мы самыя няшчасныя. Мы ўтапілі самы вялікі падводны човен, у нас згарэла самая высокая вежа, у нас самыя жорсткія тэрарысты... Зь любой трагедыі робіцца выключная зьява. Суцэльны самападман пануе ў расейскай сьвядомасьці. Нават у расейскім часопісе "Плэйбой", прэзэнтуючы пісьменьніка Мамлеева, пішуць, што ён вялікі расейскі пісьменьнік. Такое сьветаўспрыманьне немінуча вядзе да трагедыі, да расчараваньня. Самасьць асьляпляе расейцаў. І нават разумны й далікатны літаратар Міхаіл Прышвін піша: "...няма ў сьвеце больш барбарскага абыходжаньня з жывёламі, са сродкамі працы, зь зямлёю, чым у нас". Можна дадаць і чалавека, не памылімся. Але ж галоўнае: "няма ў сьвеце" і "больш". Дурная самасьць, што вядзе да новых і новых ахвяраў.

### ТРОЦКІ

Бацька чырвонага тэрору Леў Троцкі дэталёва апісаў сваё жыцьцё-быцьцё ў маскоўскім Крамлі. Уразіла ня тое, што бальшавікі расстралялі царскую сям'ю, а што, расстраляўшы, спакойна жэрлі з царскага посуду, і прыслужвалі ім за сталом царскія лёкаі.

Я не цярплю аднаразовага посуду, але й з чужых, нават рэстаранных талерак, есьці не люблю. Каб можна было хадзіць у госьці з уласным сталовым прыборам, я б хадзіў.

### БРУДНЫЯ, ГАЛОДНЫЯ, ЗЛЫЯ...

Сын Мікола зьездзіў на дзень у Маскву. "Яны там усе брудныя, галодныя, злыя", — пра масквічоў. А я ўжо й не заўважаю гэтага, прывык, пэўна. Міколавы ўражаньні пераказаў Сашы Дынько. А яна кажа, што й сапраўды брудныя, галодныя, злыя.

### ЧЫНГІСХАНАВІЧЫ

Расейскі эмігрант князь Мікалай Трубяцкой у 20-х гадах XX ст. фармуляваў дактрыну новага шляху Расеі. Ён пісаў: "Камунізм на самой справе зьяўляецца скажоным варыянтам эўрапеізму ў яговых разбурэньнях духоўных асноваў і нацыянальнай унікальнасьці расейскага грамадзтва, у распаўсюджваньні ў ім матэрыялістычных крытэраў, якія фактычна кіруюць у Эўропе і Амэрыцы..."

Відавочны маразм Трубяцкога пацьвердзіла гісторыя, калі камунізм чайшоў да Азіі й выявіўся ва ўчынках Мао, Хо Шы Міна й асабліва крывава ў дзеяньнях Пол Пота, чые пасьлядоўнікі матыкамі трушчылі чарапы сваіх бацькоў.

"Наша задача — стварыць цалкам новую культуру, нашу ўласную культуру, якая ня будзе падобнай да эўрапейскай цывілізацыі... Калі Расея перастане быць скажоным адбіткам эўрапейскай цывілізацыі... Калі яна зноў стане сама сабою: Расеяю-Эўразіяю, сьвядомай спадкаемніцаю і носьбітам вялікай спадчыны Чынгісхана".

Маразм на маразьме. Якая цалкам новая культура? Чаму ня трэба быць падобным да цывілізацыі? Кім можа быць Расея, акрамя як Расеяю? Чаму за ўзор бярэцца спадчына Чынгісхана, а ня прыклад Аляксандра Македонскага, які хоць крышку ў Арыстотэля вучыўся і рэальна аб'ядноўваў Эўропу з Азіяй?

І няхай бы глупствы князя-выгнаньніка засталіся на пажоўклай паперы. Дык не. Расея намагаецца аб'яднаць Беларусь з Таджыкістанам, Ічкерыяй і Карэліяй і стварыць гэтую хімэрычную Расею-Эўразію. Кроў, вайна й жабрацтва народу — вось вынік намаганьняў.

Расеі, каб захавацца як Расеі, трэба зрабіцца Масковіяй, эўрапейскай дзяржавай, інакш яе зьесьць мусульманская Азія, Чынгісхан адродзіцца, і расейцы зноў будуць сплочваць падаткі вялікаму манголу.

### ДАСТАЕЎСКІ

Чорны рэаліст Дастаеўскі хварэў на азарт. Але не шанцавала Хведару Міхайлавічу, і ў швайцарскім казыно ён прайграў 2000 рублёў золатам. Сьпехам пазычыў грошы на дарогу і ўцёк у Санкт-Пецярбург. Доўг расейскага літаратара й дагэтуль ня сплочаны. Ня любяць расейцы вяртаць грошы. Браць любяць, красьці любяць, а вяртаць — не.

### ТУРГЕНЕЎ

У дзёньніку братоў Ганкураў Іван Тургенеў названы "мілым барбарам". З "барбарам" я згодны цалкам, а вось "мілы" — чыста француская галянтэрыя. Тургенеў ня мілы і ня друг, а барбар з бабскім тварам, хворы на імпэрскую ідэалёгію.

### СОРАМ ЗА МОВУ

З расейскім празаікам Сьвятазарам Барчанкам я сядзеў за адным рэстаранным сталом у доме творчасьці ў Піцундзе. З жонкаю мы дэманстрацыйна перагаворваліся па-беларуску. "А вам ня сорамна гаварыць за сталом на мове, якой астатнія не разумеюць?" — паспрабаваў упікнуць нас Сьвятазар. — "А вам ня сорамна, што ўсе сьмяротныя прысуды ЧК, НКВД і КГБ пісаліся па-расейску?". Дні два мы не гаварылі. Потым замірыліся, і Сьвятазар расказаў, як ягоны дзед даў прытулак сям'і Івана Буніна ў крывавым 1917 г. Пазьней я знайшоў у бунінскім дзёньніку запіс: "Каля шлягбаўму кола рассыпалася. Да Яльца пешкі — цяжка! Жахліва! Спыняць, могуць забіць... Прытулілі нас Барчанкі. Увечары (зноў удар!) [Успаміны перарываюцца гукамі гарматных стрэлаў, якія чуваць было, калі рабіліся запісы ў дзёньніку. — *А.Г.*] у нас госьці, я гаварыў лішняе, — выпіў. 24-га прабылі ў Яльцы. Адсюль чуткі пра пагромы маёнткаў. Вл. См. усё Аненскае разграмілі. Паляць хлеб, скаціну, сьвіньні смажаць і п'юць самагонку (Зноў!)". У знак прымірэньня Сьвятазар пераклаў на сапраўдную расейскую мову маю аповесьць "Сьмерць-мужчына".

### ВЫРВАЦЦА З РАСЕІ

Марына з роду князёў Трубяцкіх з 1934 па 1942 г. была жонкаю самага экстравагантнага расейскага літаратара Данііла Хармса. Ва ўспамінах яна кажа: "Ні за якія грошы, ні за што, што б мне ні далі — каштоўныя пярсьцёнкі, дыямэнты — ніколі ў жыцьці я ня буду глядзець на Расею!" Так вось зьнявагамі давялі чалавека да нянавісьці да Радзімы. Гэтымі словамі яна скончыла ўспаміны. А вышэй яна пісала й такое: "Мяне і яшчэ трох-чатырох маладых паклалі на печы. Я хутка сагрэлася. І раптам я пабачыла котку! Нязьведзеную котку! Я як загарлаю: "Трымайце яе! Таварышы, хапайце яе!" — і зьлядела зь печы. Я кінулася за коткай, каб яе злавіць. Але яна, дзякуй Богу, уцякла". Котку Марына лавіла, выбраўшыся з блякаднага Ленінграду, дзе за талерку супу з сабачыны аддала Друскіну ўсе рукапісы мужа. Свайго Дані, які баяўся толькі аднаго на сьвеце — што яго забяруць у войска й прымусяць забіваць людзей, які імітаваў псыхічную хваробу, якога па даносе арыштавалі й замарылі голадам у турме. А Марына вырвалася з блякады, а пасьля і з Расеі. Ёй пашанцавала.



Валяр'ян Янушкевіч



Сяргей Поклад



Валяр'ян Янушкевіч

# Беларускі Хрыстос

## сучасны, як Біл Гейтс

У беларускай культуры вобраз Хрыста быў адроджаны Ўладзімерам Караткевічам, чый раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» цалкам легальна выйшаў у 1966 г. Малюючы ілюстрацыі да яго, я і мае аднакурсьнікі сутыкаліся зь дзіўнай праблемай: каб зразумець Караткевічавы мэтафары, чытаньня бэлетрыстычнае канвы было недастаткова, даводзілася паглыбляцца ў Сьвятое Пісьмо. Гэтак у аўдыторыях менскае мастацкае вучэльні пачала зьяўляцца Біблія. Пільнае вока пэдагогаў гэта адсочвала: «Дзе ўзяў?», «Хто даў?»

Тое было даўно. Сёньня ж Ісус Хрыстос ізноў — адзін з цэнтральных пэрсанажаў беларускага мастацтва. Але, як і нэафіты, сучасныя мастакі мусяць яго вымысьліваць. Бо нават Сьвятое Пісьмо не падказвае нам, як выглядаў Хрыстос.





Давід Чэрны

Знаны ў Вільні беларускі мастак Сяргей Поклад намаляваў багата палотнаў на біблійныя сюжэты. Ён часта выстаўляецца ў Літве, Нямеччыне, Польшчы, Беларусі. Я задаў яму пытаньне: якія для вас Хрыстос і які зьмест вы ўкладаеце ў свае партрэты Хрыста?

### СЯРГЕЙ ПОКЛАД

*"Для мяне Ісус Хрыстос – гэта валадар валадароў, які прыйшоў на Зямлю. Але я маляваў не абразы, а вобраз мацярынства... У Бібліі сказана, што жанчына ўратуецца толькі праз нараджэньне дзяцей, як Ева. У Бібліі напісана, што трэба палюбіць Госпада ўсім сэрцам, усёй душою, усёй крэпасьцю сваёй. А Бог ёсьць Духам! І маюць рацыю тыя, хто пакланяецца ня бачнаму Богу, а Духу. І я не разумею, калі людзі вешаюць ягоныя выявы на сьцены, пакланяюцца ім. Бог робіцца, што ідал. Упрыгожыць нешта можна, а пакланяцца – гэта ідальства. Я малюю не абразы, а сымбалі. Быў Сын Божы, ён уратаваў людзей. Калі любіш — а я дужа-дужа люблю Ісуса Хрыста, — дык карціць, ведаючы ягоны лёс, уяўляючы, як ён жыў, хадзіў па зямлі, паказаць гэта на плоскасьці людзям. А вось рабіць з гэтага культ я не хацеў бы".*

Мастак Поклад – пратэстант, і чыстыя й звонкія абразы, гэтак папулярныя сярод пакупнікоў, для яго — толькі спосаб падзяліцца сваімі ўяўленьнямі пра Хрыста. Ня больш. Самае галоўнае для яго, каб гэта было прыгожа... Сп.Поклад глыбока перакананы, што Беларусь ня будзе ўратаваная мастацтвам, бо, нягледзячы на велізарныя здабыткі мастацтва Эгіпту, Італіі ці Нямеччыны, яны ня выратавалі нікога. На ягоную думку, няма ніякага хрысьціянскага мастацтва. Ёсьць мастацтва, а ёсьць Хрыстос. «Беларусь, — кажа Сяргей Поклад, — можа ўратаваць толькі шчырая вера ў Збаўцу...»

Я зьвярнуўся таксама да скульптараў, бо хто ж, як ня скульптар, мусіць вычуваць вобраз Хрыста як гістарычнага пэрсанажа. Плястычна, відочна, навобмацак...

Эдвард Падбярэскі — аўтар манумэнтаў беларускім дзеячам на віленскіх могілках, Росах і Ліпоўцы. Але найперш ён — аўтар аздобы шмат якіх касьцёлаў у Вільні, Рукойнях, Маладэчне, Глыбокім, Лідзе, Менску, Мазыры, Дунілавічах, Мосары. Рабіў ён гэта яшчэ ад 70-х. Менавіта дзякуючы гэткім творцам, як Падбярэскі, традыцыі сакральнага мастацтва ў Беларусі не перарываліся й за саветаў. Тады, калі іншыя мастакі займаліся камуністычнай афармляйлаўкай.

### ЭДВАРД ПАДБЯРЭСКІ

*"Для мяне Хрыстос – гэта наша Надзея! – кажа сп.Падбярэскі. — Ён быў высокага росту, меў доўгі твар, шэрыя вочы. Ён вельмі прыемная асоба, падобны да некаторых маіх знаёмых. Калі ўзяць некалькі чалавек, скласьці, дык... Турынская плашчаніца — праўдзівы дакумэнт, што сьведчыць пра выгляд Хрыста.*

*Я стаю на канонах. Калі адхіліцца ад іх, дык скульптура ня будзе ўспрымацца людзьмі. Бо вобраз вельмі складаны, рэдка хто можа яго зразумець. Ведаеце, цяпер моцна ўсё ўскла днілася. Сёньня ствараць Ягоны вобраз цяжэй, чым раней. Чалавек цяпер стаў нашмат складанейшы, чым раней уяўлялі сабе людзі. Гэта я па сабе магу сказаць...*

*У Польшчы будуецца новая самая вялікая базыліка ва Ўсходняй Эўропе, мне прапанавалі рабіць там скульптуры. Гэта Лісень пад Колінам, едучы на Познань. У траўні будзе ў Польшчы вялікі юбілей Маці Божае з-пад Коліна, увесь край будзе сьвяткаваць. І я цяпер раблю самую адказную справу для Польшчы..."*

Дарэчы, за мяжою сёньня працуе багата беларускіх творцаў. Зоя Літвінава расьпісала старасьвецкі касьцёл у Гапфагартэнсе, што ў Аўстрыі, Алесь Лось размаляваў колькі цэркваў на Падляшшы. Скульптар Валяр'ян Янушкевіч таксама вядомы ня толькі помнікам Скарыну ў Лідзе, мэмарыялам сясьцёр-назарэцянак у Наваградку, але й мэмарыяльнай шыльдай Міхала Агінскага ў Флярэнцыі. Добра вядомы ён у Беларусі і як аўтар плястычнае аздобы касьцёлу сьвятога Роха ў Менску... А цяпер паводле ягонага праекту давяршаюць інтэр'ер нядаўна адчыненага касьцёлу Сьвятога Андрэя Баболі ў Полацку. Тамака ж будзе высьвячаная й брама беларускіх пакутнікаў за веру.

### ВАЛЯР'ЯН ЯНУШКЕВІЧ

*"Хрысьціянскаму мастацтву ў нас ужо 1000 гадоў, — кажа Валяр'ян Янушкевіч. — Яно палягае на традыцыях бізантыйскага мастацтва і раманскага стылю. Я не трымаюся цьвёрдага канону, як гэта робіцца ў Расейскай праваслаўнай царкве. Але ў каталікоў таксама ёсьць свая традыцыя, пэўная іканаграфія, якой трымаліся ўсе мастакі. Адхіленьні маглі быць, але вобраз Хрыста ўсё адно пазнаецца. Калі ты выявіш чалавека гадоў пяцідзесяці, з тоўстым жыватом, дык такога Хрыста ніхто не пазнае. Традыцыя патрабуе трыццацігадовага. Калі зробіш яго з кароткімі валасамі, гэта таксама ня будзе Хрыстос, хоць ты разьбіся, даказваючы...*

*Цэрквы й касьцёлы ў нас, на жаль, афармляюць непрафэсійна. Выходзіць нейкае дылетанцкае мастацтва, афармляйлаўка, бо народнае ўсё ж было абапертае на традыцыі. Сярод сучасных майстроў, якія сур'ёзна шукаюць новы вобраз Хрыста, — Вашчанка і Пушкін. Аднак і ў іх я яшчэ ня бачу таго магутнага цэльнага вобразу, які б хацеў бачыць. Я й сам не кажу, што маю вялікія дасягненьні...*

*Пасьля гадоў вынішчэньня ідзе працэс адраджэньня, але ён кволы. Традыцыя цалкам не перарвалася, але моцна пацярпела. Расейская цывілізацыя прынесла нам сваё бачаньне. Накідвалі нам гэныя псэў-*

*дабізантыйскія формы, ніяк не ўласьцівыя нашаму народу. І тыя ж барокі ў свой час таксама вынішчалі гэты цэльны вобраз. Бо вобраз гэты, як мне здаецца, які ён быў у Бізантыі ці ў раманскім стылі, быў узноўлены мастакамі італьянскага адраджэньня. Мастакі вярнуліся назад, зрабіўшы крок наперад. Але пасьля былі тыя барокі, ракако... Ператварылі Хрыста ў аздабляйлаўку, як цяпер, гэта ўсё з адной опэры...*

*Беларусь столькі перажыла, што яна на хрысьціянства абапіраецца, як, бадай, ніякая іншая краіна. Бо такіх цярпеньня й дараваньня, як у беларусаў, я нідзе не заўважыў. У той жа Польшчы ўсё трымаецца на нейкай экзальтаванай традыцыі".*

Аляксандар Пушкін вядомы ня толькі гучнымі пэрформансамі з палітычным падтэкстам, але й цыклямі сьценапісаў у праваслаўнай царкве ў Бабры, што на Крупшчыне, і ў касьцёле сьвятога Станіслава ў Магілёве. Таму свае пытаньні я адрасаваў і яму.

### АЛЕСЬ ПУШКІН

*"Чуючы слова "канон", адразу згадваю калькі з расейскае традыцыі. Прыклад: царква Ўсіх Тужлівых Радасьці, Чарнобыльскае Божае Маці, у Менску. Ці — царква Марыі Магдалены. Гэта жах! Гэта ня жывапіс... Супраць такога канону ў мяне ўзьнікае пратэст. Насьледуючы, мастак павінен сьведама перайначваць канон на беларускую глебу. Тое, што раней рабілася інстынктыўна. Вось, скажам, «Шарашоўскія сьвятыя»: Ян Залатавусны, Рыгор Багаслоў, Васіль Вялікі... Мы, што пакончалі беларускую Акадэмію, знарок перайначваем іх пад нашае Адраджэньне. Для мяне канон — гэта беларусізацыя старажытных канонаў.*

*XXI ст. прынясе іншы вобраз Хрыста. Можа, ён будзе выкананы ў тэхніцы галяграфічнай мазаікі, ці ў скульптуры зь цікавай падсьветкаю якімі лязэрамі... Я вось выкарыстоўваю інкрустацыю саломкаю. У Бабры я зрабіў Хрыста з заляўкашанай фанэры, інкруставанага наўкола саломкаю. Гэтак мы перацягваем свой канон у XXI ст. Каб у мяне была магчымасьць зрабіць наўкола яго галяграфічнае зьзяньне, я б зрабіў, але, на жаль, змог толькі з саломкі.*

*Для мяне Хрыстос XXI ст. — такі, які рухаецца, сьвеціцца, а з вачэй — крывавая сьляза. І каб тэмпэратура вуснаў сэнсарна ўлоўлівалася, калі чалавек яму ногі цалуе. Калі ў верніка ўсхваляваны, гарачы мозг, з вачэй пачынае выцякаць Хрыстова кроў. А калі ты халодны, прагматычны, заходні, цалуеш ногі бяз думак і жару, дык нічога ня выцячэ. Вось такі Хрыстос XXI ст. Вось такога я мару зрабіць для вясковай царквы.*

*Асоба Хрыста? Я бачу яго такім, каб хацелася быць да яго падобным. Гэта вельмі сучасная асоба. Ён бы цяпер карыстаўся электроннай поштай. У яго былі б два шляхі. Альбо наагул сысьці ў пустынь, і яго б тады не было. Альбо наадварот, ён быў бы сучасны, як Біл Гейтс, лячыў бы людзей і нават кампутары — выпусьціў бы свой вірус, які б чысьціў кампутары, забруджаныя паскуднымі порнасайтамі й гвалтам".*

Чатыры мастакі – чатыры сусьветы. Вобраз Хрыста, кананічны ці не, для беларускіх мастакоў яшчэ вялікая таямніца, разгадку якое яны імкнуцца шукаць найперш у саміх сабе. Папярэднія традыцыі зглумленыя чужынцамі альбо забытыя. Зважаючы на тыя страты, што прынесла нам XX ст., нашае бачаньне Хрыста ў новым тысячагодзьдзі й будзе менавіта гэткім, якім яго створаць нашыя мастакі цяпер.

**Сяргей Харэўскі**


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**Хто мае грошы, дапамажыце на лекі й догляд айца Ўладзіслава Чарняўскага, які неўзабаве па сваім 85-годзьдзі цяжка захварэў і трапіў у 9-ю менскую больніцу. Тэл. (017) 270-62-39. Спытацца айца Леаніда.**

архіў

# Босае войска

**23 лютага — дзень стварэньня Беларускай Краёвай Абароны**

**Справаздача Койданаўскага батальёну № 17 Беларускай Краёвай Абароны на 10.6.1944**

Усяго па спіску лічыцца
Афіцэраў – 23,
Падафіцэраў – 41,
Стральцоў – 387,
Усяго – 451.

З гэтага ліку ў самавольнай адлучцы – 29 чалавек. На ўзбраеньне батальёну паступіла 100 італьянскіх вінтовак і 50 рускіх. Стан зброі задавальняючы, але няма аружэйных прыладаў і змазкі для аружжа.

Прадукты харчаваньня атрымоўваем праз Койданаўскі паліцэйскі пост. Сьнеданьне і абед рыхтуюцца на кухні, на вечар атрымліваецца гарачае кофе і сухі паёк. Усе жаўнеры размешчаны па кашарам, сродкі абароны кашараў заканчваюцца.

Абмундыравана ўсяго 7 афіцэраў і падафіцэраў, якія прыехалі зь Менску з курсаў. 50% стральцоў зусім босыя. Ёсьць такія, якія зусім ня маюць вопраткі. Асабліва бежанцы.

Хворых за гэты час па батальёну налічваецца:
— афіцэраў – 1,
— падафіцэраў – 1,
— стральцоў – 26
— Разам 28 чалавек.

Эпідэмічна хворых 1 чалавек (тыфус).

Ранены партызанамі стралец Сяўрук зволен з батальёну згодна заключэньня вайсковага доктара.

За гэты час матар'ял вайсковай падрыхтоўкі пройдзен згодна дасланай вамі праграмы ня поўнасьцю, таму што людзі былі занятыя на працах абарончага характару.

Важнейшым ухіленьнем ад дысцыпліны з'яўляецца самавольная адлучка, за што накладалася пакараньне.



Прапагандовая праца праводзілася згодна дасланай Вамі праграмы. Ротныя прапагандысты праводзяць чытку газэт і брашур. Пакой для афіцэрскага казіно знойдзен, але акрамя сталоў і лавак нічым не абсталяваны.

Варожая прапаганда выявілася ў тым, што ў час высадкі англа-амэрыканцаў на Захадзе Эўропы сярод стральцоў былі распушчаныя чуткі, што палова Францыі занята англа-амэрыканцамі. Асьветны афцэр зрабіў даклад аб інвазіі, выкрыўшы гэтыя чуткі як варожую прапаганду. Ротныя асьветныя падафіцэры таксама правялі гутаркі на тэму аб інвазіі.

Адмоўна дзейнічае на настрой стральцоў тое, што многія зусім босыя, а некаторая частка насельніцтва адносіцца к гэтаму з насьмешкай.

Зь нямецкіх улад найбольшую падтрымку батальёну аказвае Койданаўскі жандармскі пост.

**Камандзір батальёну №17 Бараноўскі**
**Начальнік штабу Шаблоўскі**

**НАРБ Ф.382, спр.4, арк.113.**
**Падрыхтаваў Алег Гардзіенка**

# "Наша Ніва" 90 гадоў таму

**В.Пасадцы, Віл. Губ. Вялейскага пав.** Разам з шчырым віншаваньнем рэдакцыі з Новым годам сьвятой і справядлівай працы, я хачу сказаць колькі слоў, што можа сказаць і кожын, хто ўважна ўглядаўся, як прымаецца на вёсцы родная наша беларуская газэта. Божа мой! Як блізкі кожнаму беларусу творы беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў, якія друкуюцца ў ядзінай нашай газэце! Якія моцныя вoклікі вырываюцца з грудзей людзкіх!

Я ўжо пісаў (№32, 1910), як у нашай вёсцы Пасадцы (Крайскай воласьці) сяляне слухалі, калі я ім чытаў "Н.Н." Я чытаў ім яшчэ многа разоў і ўбачыў, што, пішучы тады, я не абмануўся. Слухаючы вершы нашых паэтаў, яны то чуць ня плакалі, то рагаталі, як шалёныя! Бяда толькі, што мала граматных, а калі хто і вучыўся, то даўно забыўся, бо тое, што сілай у чужой мове ўбіта ў галаву, скора вылятае, і іншаму пот ліецца, пакуль нагрэмзае сваё імя.

Здарылася сёлета, што даў я майму таварышу ў мястэчка Вязынь (Вялейск. пав.) некалькі нумараў газэты "Н.Н." Праз колькі тыдняў ізноў мы ўбачыліся, ажно ён просіць яшчэ газэты. Аказалася, што ён іх даў аднаму граматнаму штырніку, каторы ганяе платы на Нёмане ў Коўну і Вільню. Гэты чалавек, сабраўшы сваю хэўру штырнікаў – каля 30 чалавек, уночы на беразе Нёмана, ля вогнішча чытаў ім "Н.Н." – "Шмат гарэлкі, — казаў ён, — выпілі б яны за гэтую пару, але знайшлося лякарства!.."

Дык цяпераka сьмела магу казаць, што для народу шчырае слова ў яго роднай, зразумелай мове ёсьць найлепшае лякарства ад усялякіх цямнот: ад п'янства, ад веры ў забабоны і знахараў і т.д. Роднае слова родзіць любоў к сьвету, культурнаму, разумнаму жыцьцю. Праўда, цярністы шлях тых, што торaць дарогу; але, змагаючыся з ворагамі ўсяго народу беларускага за нацыянальную справу, яны ідуць далей і далей, а мы, углядаючыся на гэтае змаганьне з далёкіх, глухіх куткоў, кажам: "Ня вечна цёмныя тулягі будуць скрываць перад намі сонца! Ня вечна крыўдзе панаваць над праўдай! Працуйце, браты, зь верай, што мы Вам спагадаем і, чым сіл, паможам дзеля лепшай долі ўсіх нас!"

**Зьмітрок Бядуля**
**13 Студня 1911 г., №2**

Выйшла з друку і прадаецца ў канторы "Нашай Нівы" Кароткая гісторыя Беларусі з 40 рысункамі. Напісаў Власт. Цана 60 кап.

**10 Лютага 1911 г., №6**



**22 лютага на 74-м годзе жыцьця памёр Іван Фурсевіч.**

**Іван Фурсевіч нарадзіўся 6 кастрычніка 1927 г. у Галавенчыцах на Стаўпеччыне. У часе сусьветнай вайны скончыў Баранавіцкую мэдычную школу, затым служыў у савецкім войску. У войску ж у 1949 годзе быў арыштаваны, а пасьля і асуджаны па палітычных абвінавачваньнях на 25 гадоў зьняволеньня ў канцлягерах. Пасьля сьмерці Сталіна ў сярэдзіне 50-х выйшаў на волю, паступіў вучыцца ў Сяміпалацінскі мэдінстытут. Атрымаўшы прафэсію, вярнуўся на Бацькаўшчыну і пасяліўся ў Докшыцах, дзе і працаваў лекарам да апошніх дзён жыцьця. Іван Фурсевіч друкаваў у пэрыядычных выданьнях апавяданьні з турэмна-лягернага жыцьця, заснаваныя на рэальных фактах. Большасьць напісанага ім пакуль што застаецца ў рукапісах.**

**Праз усё сваё нялёгкае жыцьцё Іван Фурсевіч пранёс у сэрцы любоў да Беларушчыны і няззломную веру ў адраджэньне Краю.**

**Сябры і прыяцелі нябожчыка, колішнія палітвязьні**

# *Нерасьцьвілая кветка*

Іван Фурсевіч

Было гэта ў канцы 1950-га ці пачатку 1951 году. Я, тады яшчэ малады "студэнт" Акадэміі імя Лаўрэнція Паўлавіча Бэрыі, скончыўшы толькі першы яе курс – сьледзтва і суд, сядзеў у 59-й камэры Бутырскай турмы і чакаў адказу на маю скаргу на прысуд ваеннага трыбуналу Маскоўскай ваеннай акругі, накіраваную ў ваенную калегію Вярхоўнага Суду СССР. У тое, што ваенная калегія скасуе прысуд ваеннага трыбуналу, ня верыў амаль ніхто з маіх сукамэрнікаў. Не было такога, як цяпер кажуць, прэцэдэнту. Праўда, у некаторых, асабліва ў наіўных маскоўскіх інтэлігентаў, цеплілася нейкая іскрынка надзеі на справядлівасьць – усё ж найвышэйшая інстанцыя самага справядлівага ў сьвеце суду разьбярэцца, і калі ня выпусьціць на волю, дык хоць зьменшыць гэты бязглузды зьдзеклівы прысуд. Але "самая высокая інстанцыя" меркавала, што савецкія суды, нават самай нізкай інстанцыі, — самыя справядлівыя і ніколі не памыляюцца. А тым больш у адносінах да ворагаў народу.

І скаргі мы пісалі не таму, што на штосьці спадзяваліся. Рэч была ў тым, што судзілі нас позьняй восеньню. Наперадзе была суворая сібірская зіма. І ўсе ведалі, што этап зімою – язда ў халодных цягніках — вельмі цяжкое выпрабаваньне. Ад гэтай думкі нават у цёплай камэры мароз прабягаў па скуры. А адказу на скаргу чакаць даводзілася, як правіла, ня менш як паўгоду. А там і вясна надыдзе. Усе думалі, што перанесьці зіму ў амаль камфортных умовах камэры для асуджаных Бутыркі – камфортных, зразумела, умоўна,— было значна лягчэй, чым у цесных перасылках Сібіры. Тым больш, што мукі сьледзтва скончыліся, рэжым быў даволі мяккі – цэлы дзень што хочаш, тое і рабі. Кніг – досыць, а на працу ня гоняць, ды кормяць хоць і нятлуста, але ж прыстойна, і з голаду ніхто не памірае.

Насельнікамі нашай камэры былі пераважна масквічы. Былі яны прафэсарамі, дацэнтамі, кіраўнікамі і адміністратарамі найвышэйшых рангаў. Усе праходзілі па групавых справах – дактароў, геолягаў, жыдоў. Вылучаліся масквічы ня толькі добрай, па сэзоне, экіпіроўкай, вялікімі "сідарамі", дастатковай укормленасьцю – жывоцікі іх ня надта зьменшыліся падчас сьледзтва, бо яны мелі і рэгулярныя перадачы з волі, і «ларок». Выдзяляліся яны і сваёй адукацыяй – усе мелі вышэйшую асьвету, а некаторыя былі нават акадэмікамі, а таксама тым, што на нас, прыблудаў, сабраных па арудах з усяго Саюзу, глядзелі крыху звысока, нават пагардліва, як на сялянаў, што трапілі ў вышэйшы сьвет. Падобнымі да іх мы былі толькі бледнымі тварамі ды вялікімі, "на ўсю катушку", тэрмінамі.

Усе яны ўважалі сябе невінаватымі, свой арышт – выпадковай недарэчнасьцю і ў душы спадзяваліся, што ваенная калегія Вярхоўнага Суду перагледзіць іх прысуды і, папрасіўшы прабачэньня, верне іх на старыя цёплыя месцы. Аб гэтым некаторыя зь іх казалі адкрыта, і зь вялікім нецярпеньнем заўсёды бегалі да "кармушкі", зь якой наглядчык казаў "на Мы", ці "на Ны", ці на іншую літару альфабэту.

Таму, калі ў чарговы раз пасьля бразгату замкоў і скрыпу дзьвярэй на парозе са скрутам пасьцелі і пустой торбачкай, сшытай з вафэльнага ручніка, зьявіўся чарговы насельнік у салдацкай вопратцы бяз рэменя і пагонаў, у сукамэрнікаў асаблівага зацікаўленьня ён ня выклікаў.

Пасьля кароткага прадстаўленьня – Міша Валынец са Львова — ён, агледзеўшыся, адразу падышоў да мяне, "брата па зброі", і папрасіў дазволу прысесьці.

Быў ён надта схудалы і бледны. А ў той дзень яшчэ й галодны, бо прыбыў з этапу. Я падзяліўся зь ім сваім небагатым скарбам – двума скрылікамі хлеба, кавалачкам маргарыну і цукру, якія засталіся ад "супольнага стала" – долі прадуктаў, якая выдзяляецца з кожнай перадачы і «ларка» і дзеліцца пароўну паміж тымі, хто ня мае ні таго, ні другога.

Мы хутка зь ім паразумеліся, бо мелі шмат супольнага. Былі мы аднагодкамі – салдатамі, праходзілі амаль па аднолькавай справе – ён быў украінскі, а я беларускі нацыяналіст, ды яшчэ й суседзямі, амаль землякамі – ён са Львоўшчыны, а я – з Баранавіччыны.

Акрамя гэтага, мы былі "заходнікамі" – ён з Заходняй Украіны, а я – Беларусі. Дый выхаваньне ў нас было амаль аднолькавае – у яго *школа повшэхна* і курс гімназіі, у мяне – такая ж школа повшэхна і мэдычная школа. Але галоўнае, што нас збліжала, – гэта нашае захапленьне літаратурай. Я са школьных гадоў пісаў вершы, праўда, надта слабыя, і зьмяшчаў іх толькі ў школьнай насьценнай газэце. А ён быў сапраўдным паэтам і ўжо ў 17 гадоў выдаў свой першы зборнік.

Таму галоўнай тэмай нашых гутарак была літаратура. Я ў той час дастаткова добра ведаў беларускую літаратуру, нават і ня толькі дарэвалюцыйную, але й савецкую, тады ўжо забароненую ў Савецкім Саюзе. А апошнія гады тры я сур'ёзна захапляўся і ўкраінскай – ва ўкраінскай кнігарні ў Маскве я набыў невялікі, у сьветла-блакітнай вокладцы, зборнік Лесі Ўкраінкі, выдадзены ў апошні год вайны, а таксама "Кабзар" на ўкраінскай і расейскай мовах. Пасьля пачаў рэгулярна чытаць часопісы "Вітчизна" і "Дніпро", адшукваў у бібліятэках Масквы творы Івана Франка, М.Кацюбінскага, Стэфаніка і Панаса Мірнага. Найбольш мне спадабалася Леся Ўкраінка. Яе верш "Contra Spem Spero" мяне так уразіў, што я вывучыў яго на памяць і памятаю да гэтага часу.

*Гетьте, думи ви хмари осінні!*
*Тож тепер весна золота!*
*Чи то так у жалю, в голосінні*
*Проминуть молодії літа?*

*Ні, я хочу крізь сльозы сміятись*
*Серед лиха співати пісні,*
*Без надії таки сподіватись,*
*Жити хочу! Геть, думи сумні!*

*Я на вбогім сумнім перелозі*
*Буду сіять барвисті квітки.*
*Буду сіять квітки на морозі,*
*Буду лить на них сльози гіркі.*

*І від сліз тих горячих розтане*
*Та кора льодовая, міцна,*
*Може, квіти зійдуть, і настане*
*Шче й для мене весела весна.*

Ад верша веяла сьмяротным сумам невылечна хворай на сухоты, якая адчувае сваю сьмерць, але вельмі хоча жыць. Мне яна нагадала нашу Цётку. Падабенства гэтага дадаваў і фатаздымак — у нацыянальным уборы. Мне здавалася тады, што і лёс іх таксама нібы павінен быць падобны.

Спадабалася мне і "Даўняя казка", падобная да "Кургану" Янкі Купалы, дзе і лёсы герояў падобныя, і думкі іх таксама нібы падслуханыя. Напрыклад:

*Не поет, хто забувае*
*Про страшні народні рани.*
*І собі на вільні руки*
*Золоті надів кайдани.*

І пранікнёныя словы гусьляра, што "гусьлям ня пішуць законаў". І "не скуеш толькі дум ланцугамі".

А "Восеньская казка" падабалася ня вельмі. Там ужо гучыць матыў пралетарскага барацьбіта, які перамагае сваім пралетарскім перакананьнем.

Я чытаў яму творы Багушэвіча, Каруся Каганца, Багдановіча, Якуба Коласа і Янкі Купалы. "Курган" і "Прарок" я памятаў поўнасьцю. Яны вельмі ўразілі Міхася. Ён пагадзіўся з тым, што ён сапраўды вельмі блізкі да "Даўняй казки" Лесі Ўкраінкі. А Багдановіч зачараваў Валынца сваім лірызмам, ён сказаў, што такога лірыка Ўкраіна ня мае.

Міша чытаў мне вершы Івана Франка, а таксама свае вершы. Яны былі лірычныя і патрыятычныя. Клікалі да барацьбы. За іх, казаў ён, і трапіў у турму. Яго чэкісты хацелі зрабіць кіраўніком нейкай літаратурнай арганізацыі і доўга катавалі. Але пасьля адчапіліся.

Чытаў ён свае патрыятычныя вершы сапраўды артыстычна. Ён тады неяк распростваўся, галава горда закідвалася, вочы блішчэлі, твар бляднеў, а голас зьвінеў. Ён станавіўся сапраўдным паэтам-трыбунам, чымсьці падобным да Купалавага прарока, які зваў сябраў на барацьбу. Міхась адчуваў музыку верша, і вершы яго зьвінелі, як палянэз Агінскага. Нават ганарыстыя масквічы падыходзілі паслухаць гэтага паэта-нацыяналіста, як яны звалі Валынца.

Мала каго зь іх захапляў зьмест яго вершаў, бо ўсе яны былі русафіламі-шавіністамі і не ўспрымалі бандэраўцаў, якія ня хочуць жыць у Саюзе. Ён быў для іх ворагам. Але палымяная мова Міхася захапляла нават іх.

Доўга чытаць Міхась ня мог. Ён хутка стамляўся. Нават пот выступаў на ілбе. Скончыўшы чытаць, ён адразу вяў, ссутульваўся. Рукі яго, як крылы ў падбітай птушкі, апускаліся, вочы тухлі. На твары зьяўлялася нейкая вінаватая ўсьмешка. Ён увесь рабіўся падобным да падстрэленай птушкі, якая, яшчэ жывая, глядзіць на цябе. Або падобны да лілеі, нядаўна сарванай і вынятай з вады, якая вяне на вачах.

Пасьля чытаньня Міхась доўга маўчаў, і мне тады рабілася вельмі шкада яго. Я разумеў, што яму вельмі цяжка будзе выжыць ва ўмовах катаргі. ГУЛаг яго хутка зломіць. Зломіць не духоўна – духоўна ён быў значна мацнейшы за нас. Зломіць фізычна на лесапавале ці ў шахце, бо ў яго пры моцным духу было надта кволае здароўе. Яно ў дадатак было яшчэ і моцна падарванае годам сьледзтва.

Доўга пабыць разам, на жаль, не ўдалося. Яго вырвалі на этап, і шляхі нашы разышліся. Разышліся назаўсёды. Хутчэй за ўсё, ён напоўніў букет нерасьцьвілых кветак, зрэзаных бязьлітаснай чэкісцкаю рукою.

Пасьля вызваленьня зь лягеру я літаратурай не заняўся. Я стаў студыяваць мэдыцыну. Але ў мяне час ад часу ўзьнікалі думкі аб Міхасю Валынцу. Я некалькі разоў спрабаваў зьвяртацца ў Саюз пісьменьнікаў Украіны. Але адказу не атрымаў. Там такіх, як Валынец, не паважалі.

# Хлопчык з Асіповічаў — у сталічнай Філярмоніі

# Музыкантаў

У красавіку 2000 г. журы Міжнароднага конкурсу піяністаў "Менск-2000" прысудзіла ўсе магчымыя і немагчымыя прызы й узнагароды Аляксандру Музыкантаву. Наймалодшы з усіх, ён нечакана апынуўся побач зь лідэрамі айчыннае піяністычнае школы – Сікорскім і Панаэўным. Ці не зацяжкая ноша для вучня дзясятай клясы, на выгляд нічым не адрозная ад сваіх аднагодкаў?

Менавіта на гэтае пытаньне й мусіў адказаць ягоны сольны канцэрт пазаўчора ў Канцэртнай залі Беларускай філярмоніі. У залі сабраліся пэдагогі па клясе фартэпіяна з усяго Менску, ды яшчэ сотні дзьве дзяўчатаў з Музычнага коледжу і малодшых курсаў Акадэміі музыкі. Пасьля канцэрту яны ўтварылі за кулісамі вялізную чаргу, спадзеючыся хоць на хвілінку прыцягнуць увагу новага героя. Што тычыцца шырокае публікі, дык яна пакуль асьцярожнічае. А можа, акурат гэткая свойская атмасфэра, без аншлягу, але й бяз прыкрага адчуваньня пустэчы ў залі, з дыхтоўным, патрабавальным партэрам і эмацыйнай галёркай найбольш спрыяе пасьпяховаму дэбюту.



У першым аддзяленьні Музыкантаў граў выключна Шапэна. Граў збольшага па-дзіцячаму, без глыбіннага пранікненьня ў сутнасьць, без прыхаванага болю, гэтак уласьцівага Шапэну, і – як вынік – зь вялікай колькасьцю памылак. А можа, папросту далося ў знакі натуральнае ў такіх абставінах хваляваньне. Адзіным выняткам была Саната сі-бэмоль мінор. Падалося, што за раялем апынуўся зусім іншы чалавек – мудры і сур'ёзны. Яе трэцяя і чацьвертая часткі (славуты пахавальны марш і фінал, які часта параўноўваюць зь ветрам над трунамі) прагучалі з такой глыбінёю і дасканаласьцю, якіх мне, бадай, ніколі не даводзілася чуць у гэтай залі.

У другім аддзяленьні Аляксандар пачуваўся больш упэўнена. Вельмі добра выканаў чатыры эцюды-карціны Рахманінава і Шостую санату Пракоф'ева, якая была ягоным "каньком" яшчэ на конкурсе. Акрамя яе, у канцэрце не прагучала *аніводнага* твору з конкурснай праграмы. І Шапэн, і Рахманінаў былі вывучаныя нанова – цягам апошніх месяцаў. І гэта вылучае Музыкантава з шэрагу нашых ляўрэатаў, якія, здараецца, год за годам дзяўбуць старую конкурсную праграму, пакуль тая не ператворыцца ў шматкі. Яшчэ адзін плюс Музыкантава – надзвычай прыгожы, ясны і сьпеўны гук. Ну і, канечне, тэмпэрамэнт, якому хлопец яшчэ сам не заўжды можа даць рады.

Усё гэта вяшчуе юнаму ляўрэату пасьпяховую кар'еру. Дарэчы, наступным тыднем Музыкантаў выпраўляецца на першыя ў сваім жыцьці амэрыканскія гастролі. Ён выступіць на музычным фэстывалі ў Саване, штат Джорджыя.

**Ю.А.**



# "Kerntopf" і памылка вэб-майстра

Ці памятаеце вы камісійную краму ў пачатку вуліцы Сердзіча? Мабыць, памятаеце, калі вы мянчук і калі вам даводзілася час ад часу піць піва ў суседняй карчомцы "Дубок" (цяпер там "Хуткае харчаваньне"). Тае камісіёнкі няма ўжо гады тры, а на яе месцы ўладкавалася нейкае ТАА, што гандлюе тэлевізарамі SONY, электрачайнікамі, паласатымі швэдрамі і іншым шмацьцём, якое з аднолькавым посьпехам можна купіць у Эгіпце, на Тайвані і ў рыбацкай вёсцы на беразе Карыбскага мора.

А вось у даўнай камісіёнцы прадавалі тое, чаго на Тайвані не адшукаеш. Памятаю, як дзіцем я езьдзіла туды — паглядзець. Якіх толькі пачвараў там не было! Пецярбурскія раялі "Бэкер" – фанабэрыстыя, з арэху. Венскія фартэпіяны – квадратныя, з мноствам пэдаляў, націскаючы на якія, можна было выціснуць неверагодныя гукі – дзівоснае гудзеньне, бразгат бомаў, звон цымбалаў і грукат барабанчыкаў. (У XIX ст. была мода на "турэцкую" музыку.) І, нарэшце, "Кернтапф" – звонку мэталёвы, увесь у загагулінах, з падсьвечнікамі проста на пюпітры, драўлянаю вантробай і адмысловымі малаточкамі, абцягнутымі скурай, а ня лямцам, як робяць цяпер. За яго прасілі даражэй, чым за іншыя інструмэнты, – 50 руб. Струны ў яго былі скрозь парваныя, а мэханізм – безнадзейна сапсаваны. Гэткая бандура, здавалася, была прыдатная толькі на тое, каб трымаць у ёй бульбу. І ўсё ж яна выклікала зайздрасьць і захапленьне. Шкада было толькі, што кватэра ў нас маленькая...

Пару тыдняў таму я атрымала невялічкі электронны ліст ад Уладзімера Бараніча, вэб-майстра Інтэрнэт-сайту "НН". Да яго былі прышпіленыя два лісты з Кёльну.

Аўтарам лістоў аказаўся зусім не беларус, шмат якіх знайшло апошнім часам прытулак у Нямеччыне, і нават не піяніст. У першым лісьце Увэ Кернтапф зьвяртаўся да нас па дапамогу. "Дарагія вэб-публікатары, – пісаў ён. – Я немец, і ў мяне вялізныя цяжкасьці з расшыфроўкаю нелацінскіх літараў на старонцы **http://sr10.xoom.com/Nasa_Niva/2000/47/07.htm.** Прабачце мне, калі ласка, але я нават ня ўпэўнены, грэцкія гэта літары альбо кірылічныя. Мяне галоўным чынам цікавіць зьмест тых тэкстаў, дзе згадваецца маё сямейнае прозьвішча Кернтапф. Абзац пачынаецца з «? 12", а далей можна прачытаць маё прозьвішча, напісанае лацінкаю. Я буду вельмі задаволены, калі вы мне раскажаце, пра што гэты артыкул. Прывітаньне зь Нямеччыны. Увэ Кернтапф".

Ёсьць у Інтэрнэце "залатыя рыбкі" – спэцыяльныя прылады, якія ўмэнт адшукаюць для вас любыя патрэбныя зьвесткі, варта толькі націснуць на клявішу. Выходзіш у сусьветную сетку, выклікаеш "рыбку" і просіш: "Рыбка, рыбка, адшукай мне Кернтапфа!" І праз 0,13 сэкундаў мудрая машына падносіць табе 161 згадку пра носьбітаў гэтага слаўнага прозьвішча. Пра тое, што ў Канадзе нейкаму Вальдэмару Бруна Кернтапфу далі пяць гадоў турмы за фінансавыя злоўжываньні. Аб прафэсару Варшаўскай палітэхнікі – непасрэдным нашчадку колішніх фабрыкантаў фартэпіяна і дакладчыку на канфэрэнцыях у Чыкага, Кліўлендзе і Сан-Францыска... Адшукаўся і наш суразмоўца Увэ Кернтапф. Ня ў якасьці прафэсара дый ня ў якасьці злодзея, а як сьціплы творца генэалягічнага дрэва свайго роду. Я налічыла ня менш за 30 старонак, дзе адлюстроўваліся розныя галіны і ўзроўні гэтае шляхетнае расьліны. А на асобнай, шыкоўна дэкараванай вэб-старонцы, – партрэт Увэ з жонкаю Сабінай у дзень іхнага шлюбу, а таксама дата шлюбу, адрас, тэлефон, факс, e-mail, адрас загараднай вілы... Як любяць сябе людзі!

Спасыл жа на "НН" быў у самым канцы. У дадатак, англамоўная "рыбка" сумленна прызналася, што ніўскі тэкст для яе нечытэльны. Бедны немча! Сп.Бараніч яму назаўтра ж паведаміў, што наша вэб-старонка друкуецца на кірыліцы (беларускай) і што прозьвішча Кернтапф згадваецца ў артыкуле пра аднаго беларускага музыку мінулага стагодзьдзя, які нібыта жыў у Варшаве ў сям'і Кернтапфаў і з задавальненьнем карыстаўся іхнымі дасканалымі фартэпіяна. Прачытаўшы гэта, немец моцна зьдзівіўся і папрасіў назваць імя беларускага музыкі. Бо – ён дакладна гэта ведае! – "быў яшчэ адзін чалавек, які жыў у гэтай сям'і, – польскі піяніст Ян Ігнацы Падэрэўскі". Тут сп.Кернтапф цалкам меў рацыю, хаця тое, што ён распавёў нам пра Падэрэўскага далей, было, скажам шчыра, не зусім дакладным. Але што ты зробіш? Паводле назіраньняў адной маёй знаёмай, сярэднестатыстычны немец глыбока перакананы, што Моцарт – гэта аўстрыйскі гатунак цукерак.

А вось сп.Бараніч крыху памыліўся, назваўшы Падэрэўскага беларускім музыкам. Падэрэўскі нарадзіўся ў цяперашняй Украіне, каля Жытоміру; аднак украінскія адраджэнцы ніколі не называюць яго сваім. У лістападзе 2000-га "НН" надрукавала артыкул, прысьвечаны ягоным 140-м угодкам. Галоўнаю прычынаю для публікацыі было тое, што Падэрэўскі быў ня толькі выдатным піяністам, але й палітыкам. І ў 1918–1919 г. у якасьці першага прэм'ер-міністра адноўленае Польшчы ён пэўным чынам спрычыніўся да лёсу БНР... Таму мы не пашкадавалі месца на апісаньне дэталяў ягонай біяграфіі. Згадалі сям'ю Кернтапфаў, дзе ён бясплатна жыў на ўсім працягу навучаньня ў кансэрваторыі. Згадалі й прадукт іхнага сямейнага бізнэсу – фартэпіяна "Кернтапф". Прычым, Бог ведае зь якой нагоды, напісалі фірмовую назву лацінскімі літарамі – "Kerntopf". Гэтыя літары акурат і прыцягнулі ўвагу нашага нямецкага сябра.

Якая ж мараль гэтае гісторыі? Код нашае культуры ня страчаны. Восем лацінскіх літараў – і зьвязваюцца ніткі, разрэзаныя стагодзьдзем войнаў, акупацый і нянавісьцяў. Эўропа ў нас. А мы ў Эўропе – на скрыжаваньні ўсіх ветраў, якія пахнуць пылам старых гарадоў і сольлю Атлянтыкі. Гэтага ніхто ў нас не адніме. І адна памылка вэб-майстра здольная нагадаць нам пра гэта.

Сёньня ў Інтэрнэце я адшукала абвестку: "Прадаецца піяніна XIX ст., фірма "Kerntopf". Побач – адрас электроннай пошты і нумар тэлефону. Між іншым, з кодам Гарадзенскае вобласьці.

**Юлія Андрэева**

## дыскаграфія

# "ВЕСНАЧУХА"

**ГРУПА "ЮР'Я". "Aria Records", (p) 2000.**

Альбом новага праекту Юр'я Выдронка пакідае ўражаньне, быццам ты насамрэч па пуцёўцы агенцтва "Ur'ja-Tour" наведаў экзатычную цывілізацыю Арыяварта. Можа быць, згадкі пра ейнае існаваньне і зафіксаваныя недзе ў запыленых фаліянтах старажытнагрэцкіх гісторыкаў. Але для Выдронка, трэба разумець, Арыяварта зрабілася нечым кшталту ідэалягічнае базы, на якой ён і збудаваў новы музычны праект.

Цывілізацыя Арыяварта дужа нагадвае мне вакзал памежнага райцэнтру зь вясковымі бабулямі, цыганятамі, гарадзкімі (у першым калене) міліцыянтамі з салам і яйкамі ад бацькоў, камандзіровачным тутэйшым вэртыкальшчыкам, райцэнтраўскай "круцізной" (Зямфіра ў слухалках) ды парай-тройкай напаўапранутых нелегалаў-аўганцаў, што прабіраюцца з таджыцкімі пашпартамі да польскае мяжы. І — уявіце сабе — усе яны гамоняць адначасова!

Гэта і ёсьць "новы этнамультыкультуральны праект" на тле паштовак Язэпа Драздовіча з далёкае цывілізацыі.

Пазамінулым годам "Франц" Юры Выдронак аднавіў фрагмэнт Арыяварты на галоўнай сцэне "Слов'янського базару". І трэба прызнаць: галасу той нумар нарабіў! Асабліва сярод украінскіх журналістаў, якія бегалі і пыталіся "Шчо цэ було?!" Тады ўзьнікла спадзяваньне на тое, што ў Беларусі зьявіўся новы, арыгінальны, мастацка-пераканальны калектыў. Альбом "Весначуха", на жаль, прымушае казаць, што альбо пошукі цывілізацыі вяліся не зусім там, альбо Арыяварта тых пошукаў была ня вартая.

Бо недастаткова паставіць побач хлапца з электрагітарай ды фальклёрны дзявочы ансамбль, дудара й лірніка Віктара Кульпіна і сытарыста Юр'я Задзірана, а зьверху агучыць усё гарлавым сьпевам Выдронка а la Тува. Усе намаганьні выявяцца дарэмнымі, калі ўсё гэта разам проста не прагучыць. А яно найчасьцей якраз і не гучыць, або, скажам так, гучыць надзвычай нязвыкла.

Экстрэмальны рок, прынамсі, гэтак ня ўразіць. Ды вось у чым штука: Выдронак часам здольны зазірнуць наперад настолькі, наколькі тое нязьдольны зрабіць самы адмысловы пісьменьнік-фантаст. А такіх у нас нібыта няма, апрача аўтараў эканамічных справаздачаў дзяржавы. Упэўнены: праз год-другі праект "Ur'ja" зробіцца такі ж звыклы для слуханьня, як і "Ляпис Трубецкой". А пакуль, згодны, такі падыход да фальклёру, вядома ж, неверагодна раздражняе. Прыблізна гэтак жа ў свой час Рыгор Шырма адрэагаваў на інтэрпрэтацыю фальклёру "Песьнярамі", якіх цяпер зь ліку маладых наагул мала хто слухае: старызна! Паслухайце, як увасобленая песьня "На той сьвет па мамку". Калі ў вас у душы нічога не зварухнецца — паступайце вучыцца на мянта.

Можна толькі ўявіць сабе, колькі высілкаў і часу паклаў Юры Выдронак на запіс гэтага альбому зь відэатрэкам (мой кампутар адмовіўся паказваць малюнкі). Ён крочыць нязьведанымі сьцяжынамі, якія зусім не абавязкова прыводзяць да плёну, зямлі абяцанай ды чарговых спонсараў. Галоўнае — ён працуе, паказваючы, што музычная культура ў Беларусі можа існаваць і ў такім вось увасабленьні, называй ты тую краіну цывілізацыяй ці не.

**Зарыявартаны СЛУХАЧ**



## ВОДГУК

**Пакрыўдзіла мяне "рэцэнзія" Слухача на альбом "Тры чарапахі".** На маю думку, апошнім альбомам такога кшталту была "Мая краіна" "Новага Неба" (за што ім, дарэчы, і помнік можна паставіць!). Усе, хто слухаў "Чарапахаў", падзяліліся на два лягеры – «за» і «супраць». Апошніх менш, іх асноўны аргумэнт – гэты альбом ня вытрыманы ў NRMаўскім стылі. Але хіба ўсе яны павінны быць падобнымі адзін да аднаго? Рок – гэта ня 10 стандартных мэлёдыяў папсы ці рэпу, а выкарыстаньня спэцэфэктаў ніхто не забараняў!

У альбоме вытрымана канцэпцыя, і ніводная песьня зь яе не выбіваецца. А гіту кшталту "Худсавету" даўно ўжо не было!

Асобна наконт "папсовасьці" тытульнае песьні. Калі пры ацэнцы музычных твораў кіравацца прынцыпам "пад гэтае можна танчыць – значыць, папса", мала застанецца ўласна рок-песень, а "Партызаны" і "Одзірыдзідзіна", а таксама "We will rock you" будуць лічыцца гопам.

Я не належу да фанатак NRM, але цалкам згодная з вынікамі апошняй рок-каранацыі.

**Дзіна Свабодзіна, Менск**



# Зямляк з Парыжу

**У чацьвер у Скарынаўскім цэнтры адбыўся круглы стол "Ежы Гедройц і Беларусь", задуманы як сымбалічнае вяртаньне Ежы Гедройца на радзіму ў Менск, дзе ён зрабіў калісьці свае першыя крокі, прачытаў першыя кніжкі і ўпершыню задумаўся пра сваё жыцьцёвае прызначэньне.**

Пра тую эпоху ў ягоным жыцьці цяпер мала што вядома. Гедройц не лічыў неабходным клапаціцца пра будучыя біяграфіі. Захаваліся зьвесткі, што ягоны дзед вымушаны быў прадаць радавы фальварак недалёка ад Сьмілавічаў, а бацька працаваў у Менску аптэкарам. Балюча менчукам, што ніводная з вуліцаў, дзе ён бегаў дзіцем, не завецца цяпер ягоным імем! Прытым што Літва даўно ўжо абвясьціла Гедройца сваім ганаровым грамадзянінам, зважаючы проста на прысутнасьць літоўскае крыві ў жылах ягоных продкаў.

Гедройц першым з замежнікаў узьняў пытаньне пра незалежнасьць Беларусі. Ён дапамагаў нашым навукоўцам. Выдаваў часопіс, у якім знаходзілася месца для беларускай праблематыкі. У сваіх ліставаньнях запладніў беларускіх інтэлектуалаў ідэямі і праектамі, якіх з гакам хопіць на наступныя 20 гадоў. А ў цяжкую хвіліну, калі Беларускі ліцэй у Гайнаўцы цярпеў ад нястачы сродкаў, якіх бракавала нават на ацяпленьне, ён выплаціў 15 тыс. франкаў з сваёй уласнае кішэні і нават не хацеў слухаць словы падзякі.

Пра ўсё гэта багата гаварылася падчас канфэрэнцыі. Значна менш гаварылася пра тое, што Ежы Гедройц не пасьпеў для нас зрабіць, хоць і намагаўся. Гэтую тэму закрануў хіба толькі Алесь Анціпенка, дырэктар Беларускага калегіюму. Менавіта ён нагадаў прысутным пра прынцып неідэалягізаванага мысьленьня – гэты нарожны камень Гедройцавага сьветапогляду. Неідэалягізаванасьць і абсалютная сумленнасьць дазваляла яму свабодна крытыкаваць кожны рэжым і кожны ўрад. Для яго не было ворагаў і хаўрусьнікаў; ён глядзеў на ўсё аднымі вачыма і бачыў *праўду*, якой бы балючай гэтая праўда ні была. Ён быў бескампрамісны і ў гэтым сэнсе апалітычны; бо палітыка – гэта мастацтва магчымага. Нехта ўзгадваў, як у 1989 г., калі паўсталі славутыя дамоўленасьці "круглага стала", што адчынілі польскай "Салідарнасьці" дарогу да ўлады, Ежы Гедройц жорстка крытыкаваў сваіх сябраў-лібэралаў за кампраміс з камуністамі. Гэты чалавек заўжды марыў пра немагчымае, і акурат немагчымае дзіўным чынам збывалася. Мы ж марым толькі пра магчымае, напрыклад – пра помнік Ежы Гедройцу недалёка ад "вул.Гедройца". Гэткага помніка мы напэўна дачакаем.

**Андрэй Жулевіч**

*Філязафічныя нататкі*

Ігар Бабкоў

# ЕЖЫ ГЕДРОЙЦ

## і посткаляніяльнае мысьленьне

Ежы Гедройц і ягоная спадчына могуць быць убачаныя і прачытаныя ў розных пэрспэктывах мысьленьня. Гэтак, міталягема "нашага славутага земляка" дазваляе ўпісаць саму постаць у пантэон беларускіх герояў, абстрагуючыся ад уласна зьмястоўнай часткі ягонай спадчыны. Альбо дэфініцыя "вялікага сябра беларускай культуры", якая акцэнтуе ўвагу на тым, што беларуская праблематыка была рэпрэзэнтаваная на старонках парыскай "Культуры" як праблематыка "нацыянальная" ў часы, калі ў эўрапейскім культурным полі Беларусь прысутнічала ў якасьці "культурнай адсутнасьці" альбо, у лепшым выпадку, як "этнаграфічна-анархічная лякальнасьць". У гэткіх вызначэньнях ёсьць свой сэнс і свая рацыя, і мы не зьбіраемся іх аспрэчваць. Мы зьбіраемся зьвярнуць увагу на магчымую інтэрпрэтацыю Ежы Гедройца як першага польскага посткаляніяльнага мысьляра.

Бо менавіта Гедройц прапанаваў разглядаць беларускую ідэнтычнасьць як патэнцыйна паўнавартасную суб'ектнасьць (культурную і палітычную), зь якой Польшчы прыйдзецца мець справу ў постімпэрскай пэрспэктыве, і прапанаваў адмовіцца ад некаторых падсподна каляніялісцкіх мітаў пра "Ўсходнія землі Рэчы Паспалітай". Мітаў, што былі зьвязаныя ня толькі з палітычнымі стратэгіямі, але й з культурнымі стэрэатыпамі і статусам "польскамоўнай культурнай спадчыны", што паўстала на гэтых тэрыторыях. У тыя часы ані беларуская суб'ектнасьць, ані постімпэрская пэрспэктыва не былі чымсьці відавочным, і таму шмат для каго візія "ўсходняй палітыкі" Гедройца была зьвязаная выключна з стратамі сёньня і набыткамі толькі ў цьмянай "постімпэрскай будучыні", якая магла і не надысьці. "Беларусь" у сыстэме незалежнага польскага мысьленьня таго часу існавала ў большай ступені як геаграфічная прастора, якая да таго ж падвойвалася ў часе: гістарычная Беларусь пры гэтым распускалася ў прасторы "Ўсходніх крэсаў Рэчы Паспалітай", а сучасная распускалася ў прасторы саветызаванай "расейскасьці". У выніку, у польскім гістарычным наратыве Беларусь *яшчэ не існавала*, а ў польскай аналітыцы сучаснасьці яна *ўжо не існавала*. Ясна, што пытаньне пра беларускую будучыню ў гэтай пэрспэктыве ўвогуле не паўставала. Увесь жа масіў "беларускай савецкай рэчаіснасьці" апазнаваўся незалежнай польскай аналітыкай як "несамастойны", залежны, і ў гэтым сэнсе як ужо гістарычна прамінулы.

Зрэшты, "пераходны" характар беларускай савецкай рэчаіснасьці быў на той час відавочны ўсім. Невідавочным быў толькі сам "пункт прыбыцьця", патэнцыйная будучыня гэтай рэчаіснасьці.

Бо беларуская савецкая культура як сыстэма паўстала пасьля 1944 г., ад самога пачатку ўсьведамляла сябе – і ўсьведамлялася – як культура лякальная, пераходная. Яна была ўлучаная ў тыпова каляніяльную апазыцыю лякальнае — унівэрсальнае, у якой ролю ўнівэрсальнага грала культура "расейская", і раней ці пазьней мусіла альбо ўнівэрсалізавацца сама, альбо зьнікнуць.

Незалежная польская аналітыка (як, зрэшты, і ўся заходняя саветалёгія) памылілася, трактуючы "лякальнае" і залежнае як гістарычна прамінулае. Пасьляваенная заходняе мысьленьне зыходзіла з пэрспэктывы сусьветнай перамогі "ўнівэрсальнага" над "лякальным" — нават калі ўнівэрсальнае выяўляла сябе ў такой адмысловай абалонцы як унівэрсальнасьць "савецка-расейская", і таму адзназначна падтрымоўвала Маскву ў яе супрацьстаяньні (нават патэнцыйным) з нацыяналізмам ускраінаў. Не памыліўся толькі Ежы Гедройц, паспрабаваўшы разгледзець у калянізаванай, рэпрэсаванай, залежнай беларускай савецкай суб'ектнасьці энэргетыку супраціву і магчымасьці росту. У гэтым сэнсе Гедройц стаўся першым польскім посткаляніяльным мысьляром, які паставіў пад пытаньне як стэрэатып беларускага мінулага, так і ацэнку беларускай сучаснасьці.

Рызыкнем назваць гэта посткаляніяльным паваротам у польскім мысьленьні. Сваю рэалізацыю гэты паварот знайшоў у шматлікіх артыкулах у "Культуры", прысьвечаных украінскім, літоўскім і беларускім праблемам. Канцэптуальна новае посткаляніяльнае бачаньне сытуацыі добра відаць у артыкуле Юлюша Мерашэўскага "Расейскі "польскі комплекс" і абшар УЛБ", надрукаваным у "Культуры" (і перакладзеным часопісам "Фрагмэнты", №5). Гэтае бачаньне палягае на наступных тэзах:

— польскі "ягелёнскі" праект (Рэч Паспалітая многіх народаў) ацэньваецца аднязначна як "імпэрыялістычны" і калянізатарскі, які на стагодзьдзі затрымаў станаўленьне і разьвіцьцё нацыянальных элітаў Украіны, Беларусі і Літвы;

— гэты калянізатарскі праект сутыкнуўся ў рэгіёне з "расейскім" імпэрскім праектам, якому прайграў большасьць гістарычных сутыкненьняў;

— гэтыя два праекты ўзаемна абумоўленыя: расейская экспансія на Захад шмат у чым выкліканая гістарычнымі перасьцярогамі перад польскай экспансіяй на Ўсход і *vice versa*;

— вайна з Расеяй за ўсходнія землі непазьбежна вядзе да "залежнасьці" Польшчы ад Расеі;

— толькі незалежныя Ўкраіна, Літва і Беларусь могуць гарантаваць Польшчы канчатковы і поўны выхад з расейскай сфэры ўплыву.

Як бачым, прызнаньне беларускай, украінскай і літоўскай суб'ектнасьці грунтуецца на прызнаньні геапалітычнай неэфэктыўнасьці "ягелёнскага" праекту, на спробе вынесьці за дужкі польскай гісторыі праблему Расеі і ўсходняй палітыкі як такой. Ролю дужак выконваюць тут незалежныя прасторы Ўкраіны, Літвы і Беларусі.

Гэтая мадэль, а таксама геапалітычныя задачы, пастаўленыя ў ёй, былі цалкам рэалізаваныя цягам 1991—2000 г. Геапалітычна Польшча канчаткова пакінула ўсходнія прасторы, і сёньняшняя ўсходняя статэгія (партнэрства з Украінай, нармалізацыя стасункаў зь Літвой, стасункі зь Беларусяй) абумоўлена па сутнасьці ўжо ня ўсходнім, а заходнім вэктарам – патрабаваньнямі Эўраатлянтычнай супольнасьці/Эўрапейскага Саюзу. Нават рэгіянальныя інтэлектуальна-культурныя праекты апошняга часу (самым заўважным сярод іх, безумоўна, быў праект Ежы Клачоўскага зь яго "Канфэрэнцыяй Інстытутаў Сярэдне-Ўсходняй Эўропы) скіраваныя на ўсталяваньне заходняй "палітычнай карэктнасьці" ў сфэры гуманістыкі, узгадненьне гістарычных мітаў і, адпаведна, на тэрапію патэнцыйных культурных канфліктаў у рэгіёне — канфліктаў, якія так палохаюць Захад і замінаюць канчатковаму пераўтварэньню Ўсходняй Эўропы ў Эўропу Заходнюю.

Але.

Усё прамоўленае вышэй дазваляе сфармуляваць герэтычную думку, што сапраўдны культурны/посткаляніяльны дыялёг на прасторах былой Рэчы Паспалітай У-Мінулым-Двух-Палітычных-Народаў А-Сёньня-Чатырох-Незалежных-Дзяржаваў яшчэ не пачаўся.

Стратэгіі культурнай нармалізацыі, якія дамінуюць сёньня ў двух шматбаковых дачыненьнях, базуюцца на спробе распачаць дыялёг з чыстага аркуша і цалкам адпавядаюць стадыі "посткаляніяльнай амнэзіі", якая, як заўважыла Ліла Гандгі ў сваёй "Посткаляніяльнай тэорыі", часьцяком суправаджаецца "воляй да забыцьця" каляніяльнага мінулага. І калі для Польшчы гэтая воля да забыцьця рэалізуецца ў спробах замяніць гісторыю калянізацыі на гісторыю талеранцыі/мультыкультурнасьці, дык у Беларусі, Украіне і Літве замест гісторыі падпарадкаванасьці высоўваецца на авансцэну гісторыя гераічнага супраціву альбо самадастатковы, замкнёны наратыў нацыянальнага, у якім калянізатар займае маргінальнае месца ці ўвогуле не існуе.

У гэтым кантэксьце неабходнае разгортваньне і інстытуцыйнае замацаваньне **посткаляніяльных досьледаў**, якія можна разглядаць як тэарэтычны супраціў такога кшталту амнэзіі, як праект прыгадваньня і перадуманьня ўсяго каляніяльнага мінулага, як спроба рэканструкцыі сутнаснай неадназначнасьці ўзаемадачыненьняў калянізатара і калянізаванага, якія ўключаюць ня толькі досьвед падпарадкаванасьці/супраціву, але й досьвед гібрыднасьці, узаемадастатковасьці і сымбіёзу.

Неабходна ў чарговы раз перапісаць нашую *супольную* гісторыю.

## НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

М.Раманюк. **Беларускія народныя крыжы** / Рыхт., падбор іл. і макет Дз.Раманюка. - Вільня: Наша Ніва, Дзяніс Раманюк, 2000. - 222 с.: іл. - Наклад 1500 ас. ISBN 9955-437-08-1

**Беларусь**: Факты: Справочник / Авт.-сост. С.Самуэль. - Менск: ВТАА «Кавалер паблішэрз», 2000. - 448 с.: іл. - Наклад 1500 ас. ISBN 985-6427-33-9

*У даведніку падаюцца рознабаковыя зьвесткі пра жыцьцё беларускае дзяржавы: тэрыторыю, эканоміку, дзяржаўны лад, сацыяльную сфэру, ахову здароўя, адукацыю й навуку, кнігавыдавецкую справу, культурнае жыцьцё, архітэктуру, рэлігію, фізычную культуру й спорт, турызм. Добра аздобленая каляровымі фатаздымкамі, кніга прызначаная для замежных турыстаў і выдадзеная на замову выстаўнага цэнтру «Белэкспа».*

П.Трус. **Выбраныя творы** / Уклад., прадм. і камэнт. Г.Запартыкі. - Менск: Беллітфонд, 2000. - 384 с., (8) іл. - Наклад 4000 ас. ISBN 985-6576-13-X

*У кнізе сабраныя ўсе вядомыя на сёньня вершы, паэмы, празаічныя творы, лісты Паўлюка Труса (1904-29). Дакумэнты, зьвязаныя з П.Трусам, дадаюць шмат цікавых штрыхоў да малюнку эпохі савецкае беларусізацыі. У кнізе ўпершыню надрукавана колькі цікавых фатаздымкаў самога П.Труса ды ягоных су-*



# Абласны тэатар

**Пра Мазынскага апошнім часам шмат чуваць. Першай навіной тэатральнага сэзону быў ягоны вымушаны сыход з пасады галоўнага рэжысэра Рэспубліканскага тэатру беларускай драматургіі (даўней гэты тэатар называўся "Вольная сцэна"). Гэтая навіна ўсіх скаланула. Здаецца, даўно ўжо адышлі ў мінулае тыя часіны, калі партыйны бос сваёю мазолістаю рукою прызначаў і звальняў мясцовых жрацоў Апалёна. Ды дзе там! Скандальнае звальненьне Мазынскага не спыніла існаваньня Тэатру-студыі, а сам Мазынскі вырашыў заснаваць першую белмоўную незалежную антрэпрызу. Першым спэктаклем якой у год прэзыдэнцкіх выбараў стала не "Антыгона", ня "Макбэт" — "Вечар", паводле Дударава.**

Тэатар “Вольная сцэна” меў прыгожую трупу і разнастайны рэпэртуар, рабіў чатыры, а то й пяць прэм’ераў у сэзон з рознымі рэжысэрамі – ад Мікалая Дзінава (сапраўднае прозьвішча Гавядзінаў) да Пінігіна зь ягоным творчым антыподам Раеўскім. Ажыцьцявіў скандальную пастаноўку “Ўзьлёту Артура Ўі, які можна было спыніць”. Гэты скандал моцна паспрыяў папулярнасьці “Вольнае сцэны” сярод журналістаў. Тэатар езьдзіў на фэстывалі, атрымоўваў нейкія ўзнагароды – пераважна ў краіне, а аднойчы нават за мяжой – у Бранску. Пабываў у Эдынбургу, зьдзівіўшы тамтэйшую публіку дудараўскім перакладам Шэксьпіра на беларускую мову з ужываньнем не зусім цэнзурнай лексыкі. Прыдбаў утульнае памяшканьне, дзе наладжваліся прыгожыя вечарыны і мастацкія выставы. Распрацаваў собскі стыль у афішах – пэдантычна-крыклівы, з пазнакамі накшталт “фантасмагорыя-псыхааналіз”, “фантастычны трылер-кліп”, “жудасная камэдыя”, “драматычныя мроі” ці нават “кабарэ-дэтэктыў”. Займеў уласную старонку ў Інтэрнэце – з адрасамі і рэквізытамі, падрабязным пералікам колішніх прэм’ераў, фэстываляў і ўзнагародаў, з архівамі і навінамі. А галоўнае – з фатаграфіямі актораў трупы і іхнымі днямі нараджэньня. І ўсё гэта на расейскай мове – г.зн. зь відавочным разьлікам на Бранск. Як ува ўсіх беларускіх прадпрыемствах.

Паўстаньне “Хартыі-97”, падпісаньне Беларускай Дэклярацыі свабоды, апазыцыйныя маршы, мітынгі – усе гэтыя падзеі не абышліся бяз чыннага ўдзелу Мазынскага. У сакавіку 1998 г. на запрашэньне чэскага тэлебачаньня і радыёстанцыі “Свабодная Эўропа” ён разам зь Юр’ем Хашчавацкім наведвае Прагу з нагоды прэм’ернага паказу на Чэскім тэлебачаньні славутага дакумэнтальнага фільму “Звычайны прэзыдэнт”...

Менавіта таму ніхто не зьдзівіўся, калі на Мазынскага быў учынены напад: рэжысэр вяртаўся з лазьні, да пад’езду заставалася некалькі крокаў, і раптам – жудасны ўдар ззаду тупым прадметам па галаве. У выніку – сур’ёзныя пашкоджаньні галавы, страсеньне мазгоў, зламаная



“Вечар” Дударава й Мазынскага

УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

рука, рэанімацыя. Цікава, што Мазынскі жыве ў тым самым доме і ледзь ня ў тым жа пад’езьдзе, што й актор Расьціслаў Янкоўскі, які калісьці таксама быў зьбіты невядомымі хуліганамі. Напад адбыўся пры гэткіх самых абставінах і паводле вельмі падобнай схемы. Нягледзячы на гэты дзікунскі напад, дакладна праз месяц – 27 лютага – Мазынскі наважыўся зладзіць прэм’еру ў новым тэатры пад старою шыльдаю. Такая жыцьцёвая цьвёрдасьць ня можа не заслугоўваць павагі.

Рэпэтыцыя, на якую я намагалася патрапіць, адбывалася ў памяшканьні былой карчмы “На ростанях”, дзе цяпер шпарка робяць рамонт. Парадныя дзьверы былі зачыненыя, на тыльных вісеў замок. Я доўга валэндалася па двары ў дарэмнай надзеі, што яны адчыняцца – ці, прынамсі, нехта мне растлумачыць, як трапіць усярэдзіну. Цэлую гадзіну я пачувалася, як Аліса ў Краіне Цудаў – хіба што замест гарачага ліпеньскага поўдня была завея, і пранізьлівая вільгаць, і лёд пад нагамі, а цудадзейнага грыба, з дапамогай якога можна ўплішчыцца ў замочную шчыліну, у мяне не было. Нарэшце мне пашчасьціла дастукацца да вахцёркі ў суседняй мастацкай галерэі, якая зьлітавалася над мною і правяла нейкімі калідорамі проста ў сэрца творчага працэсу. У невялікім пакоі панавала разруха. На падлозе – будаўнічы друз, сьцены напаўразбураныя, без тынкоўкі. Сярод усяго гэтага бруду й паскудзтва стаяў стол, вясковыя лавы й зэдлікі – знарочыста тэатральныя, бутафорскія, бо ў вёсцы я гэткай мэблі ніколі ня бачыла. У гэтым асяродку разыгрывалася тэатральная дзея. Акторы Мікола Кучыц і Аляксандар Ткачонак з Расейскага тэатру яшчэ ня надта добра ведалі свае ролі і шчыравалі з паперкамі ў руках, шукаючы “арганічнага самапачуцьця”. Рэжысэр кіраваў працэсам, седзячы на старэнькай канапе. Там жа знайшлося месца й для мяне.

Тое, што я пабачыла, засмуціла мяне. Вядома, на прэм’еры многія дэталі пастаноўкі будуць выглядаць іначай. Больш прыгожа. Больш арганічна. Аднак самая сутнасьць наўрад ці зьменіцца. А сутнасьць гэтая заключаецца менавіта ў тым, што Мазынскі з пахвальнаю пасьлядоўнасьцю ўзнаўляе стылістыку абласных тэатраў савецкае эпохі. Цалкам верагодна, што “Вечар” Дударава і не надаецца на іншую пастаноўку. Схематычныя пэйзаны і пэйзанкі, праблемы і характары, якіх ня знойдзеш анідзе па-за абсягамі пісьменьніцкага дачнага каапэратыву... Калісьці гэта здавалася “вострым”, цяпер – старамодным і нецікавым. Незалежнасьць антрэпрызы нічога не зьмяніла ў стылі Мазынскага.

Навошта ж тэатар выбраў для свайго вяртаньня гэткую п’есу?

Дудараў прапанаваў Мазынскаму сваю падтрымку ў адраджэньні “Вольнае сцэны”. Знайшліся й бізнэсмэны, якія далі грошы “пад Дударава”, бо ў мазынцаў не было нават сродкаў, каб скончыць працу над “Мамабукам”. Фармальны патранаж над тэатрам узяў на сябе Саюз тэатральных дзеячоў, які ўзначальвае Дудараў. Цяпер абмяркоўваецца магчымы ўдзел прафсаюзаў. Сам Мазынскі катэгарычна аспрэчвае любую сувязь паміж дудараўскай прапановай і выбарам п’есы: “Ды няма тутака ніякай сувязі! “Мамабук” у нас ужо быў; гэта адзіны спэктакль, які ў нас застаўся пасьля таго, як нашая частка трупы пайшла з тэатру. Мы хацелі ўзяць яшчэ адну ягоную п’есу – “Кім” – і зрабіць трыпціх. Куды ж тут падзенешся – Дудараў найлепшы наш драматург. Нам трэба быць удзячнымі. Мала таго – гэта зразумелы і блізкі нам матэрыял, вельмі праблематычны. Так што ўсё сышлося нібыта найлепшым чынам”.

Над гэтымі апошнімі словамі варта задумацца. Найлепшы наш чын — стылістыка абласнога тэатру.

Апазыцыйнасьць, пры ўсёй прыцягальнасьці ў эпоху аўтарытарызму, ня здольная сама сабою надаць жыцьця мёртваму дому.

**Юлія Андрэева**

# Шаўцы бяз ботаў, або Хлеб з разынкамі

*ЭСЭ*

Юры Сьвірко



Дзе можна ў Менску перасекчыся з двума жывымі клясыкамі? Вядома, на скрыжаваньні двух клясыкаў памерлых – на рагу Маркса ды Леніна. Вось і я, шпацыруючы былою Францішканскаю-Губэрнатарскаю, каля крамы з дагэтуль загадкавым для мяне назовам “Белсаюздрук” пабачыў “Вольва” – машыну тае маркі, што найбольш падабалася мне, покуль яе не ўпадабаў Ціцянкоў. Ейны бел-чырвона-белы нумар пачынаўся з нуля і сканчаўся літарамі “МІ”. Верная прыкмета машыны з экс-ціцянкоўскага гаража.

Неўзабаве з газэтнае крамы, у нейкім агромністым спартовым касьцюме, выйшаў гаспадар аўто.

— Добры дзень, Паўле Ізотавічу! — сказаў я яму.

Павал Ізотавіч, нібы застуканы на месцы злачынства, асьцярожна павітаўся і, быццам апраўдваючыся, сказаў: “Я ўвогуле ў адпачынку, але даводзіцца па розных шапіках газэту шукаць. Не паверыш — нідзе няма!!! А там сёньня артыкул Каці Пранік выходзіць...”.

— А яна што – не ў адпачынку? – нахабна спытаўся я.

На што атрымаў прапанову зайсьці да Паўла Ізотавіча ў Дом прэсы дзён праз дзесяць, калі ягоны адпачынак скончыцца.

Неяк я туды ўжо заходзіў. Год таму спадар Павал вырашыў пажартаваць ды прапанаваў мне напісаць артыкул у ягоную “салідную газэту”. А я чалавек сур’ёзны: прапанавалі – напісаў. Ня тое каб мне вельмі хацелася ўбачыць сваё прозьвішча на ейных бачынах. Хутчэй наадварот. Але бываюць хвіліны, калі адчуваеш, што выконваеш нейкую місію — скажам, кансультацыйна-назіральную. Мая калега Марына падаравала мне цудоўны загаловак – “Прывітаньне з Фрыдрыхштрасэ. Зь Менску”, – і я вырашыў публічна паскардзіцца, што ў 2000 годзе вымушаны хадзіць па вуліцы імя Энгельса. Публічнасьць атрымалася на славу, бо наклад газэты складаў тады паўмільёна асобнікаў. І я нават цяпер не шкадую, што столькі народу менавіта ад мяне даведалася першыя, гістарычныя назвы ўсяе цэнтральнае часткі Менску.

Аднак яшчэ ніхто з рэдактараў ня зьдзекваўся зь мяне так, як Павал Ізотавіч. Месяцы тры ён думаў, ці друкаваць мой опус у сваёй “саліднай газэце”. А пасьля згубіў рукапіс. Добра, што я меў копію (якую, паміж намі, прапанаваў у часе тых ваганьняў газэце “Вечерний Минск”, чый рэдактар адмовіўся надрукаваць гэты матэрыял як антысавецкі). Забыўшыся на фанабэрыю, я ізноў прывёз у “салідную газэту” свой опус, і ён нарэшце пабачыў сьвет. Кансультацыйна-назіральная місія мая скончылася.

А тут нейкі цьмяны ўступ да – мажліва – новай прапановы! Дый дзе? На рагу ўсё тых жа вечна жывых Леніна й Карла Маркса. На скрыжаваньні тысячагодзьдзяў!

“Калі ж гэта ўсё скончыцца?” – думаў я, стоячы каля літаратурнага музэю Петруся Броўкі з шыльдай “ГОМ Ленинского РОВД”.

Гарадзкі аддзел міліцыі значыць. Трэ было б неяк інтэграваць гэтых “гомікаў” з амонаўцамі, абы добрае слова стварыць – ГАМОН!

Памятаю, як сюды, у гэты будынак, зацягнулі Віктара Ганчара – за “незаконную дзейнасьць незаконнага Цэнтравыбаркаму”. А Сямён Шарэцкі быў разам з намі, журналістамі, звонку ды спрабаваў трапіць у гэты ГОМ, але марна. Карцінкі мінулага стагодзьдзя...

Ад рэмінісцэнцыяў мяне адарваў іншы клясык, чыё імя супадае з назовам адной эгіпэцкай рачулкі. Клясыка я ведаю яшчэ зь Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, дзе ён ачольваў адну з камісіяў. Тады ён быў недаступны, нават непрыступны трыбун. А цяпер, як просты сьмяротны, зайшоў адразу за мной у краму “Консул”. Ды нават стаў пасьля мяне ў чаргу.

Але ж як стаў! Ён напіраў на мяне ўсім сваім целам, усім ростам, хаця я сам не такі ўжо й дробны. Я моўчкі адсоўваўся, а ён працягваў наступ, хаця месца навокал было дастаткова. Не люблю савецкіх людзей, тым больш калі яны ледзь ня штурмам уваходзяць у маю асабістую прастору.

Я не хацеў рабіць клясыку нейкую заўвагу, таму проста выйшаў з чаргі – ня вытрымаўшы націску, стаў паасобку. Прадаўшчыца тым часам гучна запытала: “Что следующему?” Я папрасіў свае “малако і сайку”, расплаціўся... І раптам пачуў, як клясык, трыбун, народны паэт, змагар за родную мову распытвае тую ж прадавачку: “А это мой любимый хлеб с изюмом? Ну тогда давайте. И еще две пачки творогу. Сколько-сколько?”.

Эх, “хлеб з разынкамі” — “хлеб с резинками”, незразумелы гандляркам...

Я ў той дзень пазбавіўся яшчэ адной ілюзіі, што нарадзілася ў мяне пры канцы васьмідзясятых, калі я ў Алма-Аце самастойна вывучаў беларускую мову.

Ілюзіі заўсёды зьнікаюць, сутыкаючыся з рэальнасьцю. З той рэальнасьцю, дзе рэдактар газэты ня мае сваёй газэты, а прапагандыст роднай мовы карыстаецца чужою. Дзе ўсе мы, беларусы, як шаўцы бяз ботаў. А калі цалкам шчыра – мажліва, ужо сапожнікі?

*часьнікаў і настаўнікаў Я.Бялькевіча, М.Грамыкі, Ю.Дрэйзіна, А.Круталевіча, У.Кудрэвіча, Я. і А.Лёсікаў, А.Міцкевіча, М.Піятуховіча. Каштуюць "Выбраныя творы" 930 р. Неўзабаве ў "зялёнай" сэрыі "Беларускага кнігазбору" выйдзе кніга навуковых прац і біяграфічных матэрыялаў пра гісторыка Міколу Ўлашчыка.*

А.Петрашкевіч. **Воля на крыжы**: Гістарычныя п'есы. - Менск: Мастацкая літаратура, 2000. - 271 с. - Наклад 2000 ас. ISBN 985-02-0437-0

*У зборнік увайшлі гістарычныя драмы й трагедыі Алеся Петрашкевіча: «Гора й Слава», «Меч Рагвалода», «Напісанае застаецца», «Прарок для Айчыны», «Воля на Крыжы». Раю зважыць на п'есу «Воля на Крыжы», прысьвечаную драматычнаму жыцьцю Янкі Купалы ды інтэлігентаў у 1930-я гг. П'еса рыхтавалася на паказ у Купалаўскім тэатры. Сам назоў «Воля на Крыжы» А.Петрашкевіч узяў з паэмы Міхася Чарота «Босыя на вогнішчы». Кніга выдатна аздобленая і каштуе ўсяго 800 р.*

Зянон. **Глёрыя Патрыя**: Вершы й фатаграфіі 1980-х гг. / Пад рэд. У.Арлова, Прадм. Р.Барадуліна, Маст. П.Драчоў. - Вільня: Тав-ва бел. культуры ў Літве, 2000. - Наклад 1000 ас. ISBN 9986-9228-7-9

А.Гужалоўскі. **Нараджэньне беларускага музэю**. - Менск: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусі, 2001. - 124 с.: іл. - Наклад 1000 ас. ISBN 985-7372-17-8

*Разглядаецца станаўленьне музэяў на этнічных абшарах Беларусі пры канцы XIX - на пач. XX ст. Каштуе 1,5 т.р.*

У.Караткевіч. **Хрыстос прызямліўся ў Гародні**: Раман. - Менск: Беллітфонд, 2000. - 496 с.: іл. - Наклад 5000 ас. ISBN 985-6576-14-8

*Славутым раманам У.Караткевіча выдавецтва "Беллітфонд" распачало новую кніжную сэрыю "Беларускі гістарычны раман". Наступнымі маюць зьявіцца творы: А.Пашкевіча "Пляц Волі" (пра Слуцкі збройны чын 1920 г.), К.Тарасава "Пагоня на Грунвальд", В.Іпатавай "Залатая жрыца Ашвінаў". Цана першае кнігі сэрыі - 2,7 т.р.*

**Віктар Мухін**

Адам Глёбус

# Нашы тутэйшыя

## 1984. ЯНКОЎСКІ Й ПРЫПЫНАК

Актор Расьціслаў Янкоўскі чытае Зыгмунда Фройда. Ён у захапленьні ад тэкстаў аўстрыйскага псыхоляга. Я ем вінаград і слухаю ягоныя развагі пра лібіда. Вінаград мне падабаецца больш за тэорыі ў перakaзе народнага артыста СССР. Нечакана Янкоўскі кажа: "Галоўнае, гэта спыніцца й азірнуцца. Разумееш... Спыніцца й азірнуцца". І зноў вяртаецца да вялікага Зыгмунда. Шаснаццаць гадоў я ня згадваю гэтых "спыніцца й азірнуцца", пакуль аднойчы ня чую за сьпінаю звону пабітага шкла. Спыняюся, азіраюся й згадваю Янкоўскага. І мяне пачынае мучыць пытаньне... Які звон прымусіў артыста спыніцца ў развагах пра лібіда? А мяне прыпыніў звон шкла, якое прыбіральшчыца высыпала зь вядра ў кантэйнэр са сьмецьцем.

## 1989. КОЎТУН І ПАРАДА

Аўтарка раманаў пра Цётку Валянцінка Коўтун падыходзіць да мяне й ціхенька так, па-сваяцку, кажа: "У выдавецкіх плянах стаіць зборнік "Паркан". Я пагартала. Ты можаш усіх выкінуць і выдаць сваю кнігу пад гэтай назвай". — "А як жа сяброўства, братэрства, дамоўленасьці, урэшце?" — "Якое сяброўства? Я табе разумную параду даю". А я чужых парадаў ня браў і не бяру.

## 2000. АДАМОВІЧ І ГЕІ

У Стакгольме на парадзе геяў журналістка Ядзьвіга Адамовіч (Ціна Клыкоўская) у запале пачуцьцяў кажа фатографу Алене Адамчык: "Мы з табою галоўныя гейшы Беларусі". Зразумела, Ядзя мае на ўвазе, што яны дзейсна спрыяюць гей-руху, а атрымліваецца тое, што атрымліваецца. І цяперака слоўца "гейша" можа пазначаць у нашай мове жанчыну, якая дапамагае геям адстойваць свае правы.

## 2000. АДАМЧЫК І ГАЛЬПЯРОВІЧ

Радыёжурналіст Навум Гальпяровіч перaймае мяне на сустрэчы з замежнымі літаратарамі й кажа: "Не разумею я твайго бацькі Вячаслава, ён паводзіць сябе як клясык, надае значэньне кожнаму слову, кожнаму выступленьню, кожнай публікацыі... А жыцьцё значна прасьцейшае, яго трэба ўспрымаць лягчэй..." Гальпяровічу не пярэчу. Не разумее ён майго бацькі, і хай сабе. Галоўнае, я разумею.



ВЫКАРЫСТАНЫ ЗДЫМАК АЛЕНЫ АДАМЧЫК

## 2000. АБЛАМЕЙКА Й ПРАСТЫТУТКІ

Радыёжурналіст Сяргей Абламейка любіць пагаварыць у этэры на тэалягічную тэму, а тут раптам пачынае разважаць на газэтных палосах пра... пра... прастытутак. Досыць цікава, што ў Каталёніі, пры жонцы, ён знаходзіць магчымасьць зайсьці ў прастытуткадайную ўстанову, а потым запісвае: "У барах прыморскіх мястэчак Каталёніі прастытуткі прыгажэйшыя, чым, напрыклад, у Празе. Зрэшты, яны могуць быць пражанкамі, якія выехалі на лета да мора на заробкі — чэшкі ў Чэхіі амаль не працуюць". Збольшага дакладна. На мой густ, і ў Каталёніі б... не прыгожыя. Пра праскі славяна-цыганскі кантынгент казаць ня буду. Скажу пра памылку Абламейкі, які думае: "У Беларусь путаны на заробкі ня едуць". А вось і едуць: з Арла і Тамбова, з абмерзлага Ўладзівастоку й татарскай Казані. Прастытуткі належаць да своеасаблівай вандроўнай нацыянальнасьці, яны жывуць і працуюць ня там, дзе нарадзіліся. Разбэшчанасьць і грошы на сэкс у Беларусі пакуль што ёсьць. Трэба дома бываць часьцей, спадару Абламейка, можа й нешта нейкае абломіцца.

## 2001. ГАЛУБОВІЧ І ПАКІНУТАЕ

Паэт Леанід Галубовіч кінуў піць, курыць і пісаць вершы. Па-сялянску шчыра й мудра ён яшчэ абвясьціў пра тое на ўвесь беларускі сьвет. Вядома, усе мы раней ці пазьней кідаем і піць, і курыць, і пісаць, але баімося ў тым прызнацца, бо бачым у кіданьні й старасьць сваю, і нямогласьць, і творчае бясплодзьдзе. Галубовіч усё зрабіў слушна, акрамя таго, што кніга "апошнія вершы леаніда галубовіча" выйшла ў мінулым стагодзьдзі.

## 2001. ДУДАРАЎ І СЬЦЯЖКІ

У тэатральнага дзеяча Аляксея Дударава на стале стаіць беларускі сьцяжок. Адзін бок таго сьцяжка бел-чырвона-белы, а другі — чырвона-зялёны з арнамэнтам. У залежнасьці ад перакананьняў наведніка сьцяжок павaрочваецца тым ці іншым бокам. Напэўна, у Дударава тры душы. З адной ён ходзіць атрымліваць прэміі з рук Лукашэнкі, з другой бароніць тэатар "Вольная сцэна" ад лукашыстаў, а з трэцяй выгульвае сабачку ў скверыку на беразе Сьвіслачы. Нехта запярэчыць, маўляў, нямашака ў Аляксея такога эклектычнага сьцяжка. Скажу, такі сьцяжок варта было б выдумаць, бо патрэбны ён ня толькі Дудараву, а татальнай большасьці белчыноўнікаў.

## 2001. СКАРЫНКІН І ПРЭМІЯ

Артадаксальны рыфмаплёт Андрэй Скарынкін кажа, што, калі б яму прапанавалі прэмію імя Янкі Купалы, гэта было б тое самае, што Байрану прапанаваць прэмію імя Вазьнясенскага. Ён кажа, а "Свободные Новости" друкуюць. Тое, што хворых на манію велічы ў Менску хапае, — не навіна. Але пра менскага Байрана я чую ўпершыню, таму й пазначаю падзею.

## 2001. ВЯЧОРКА Й ПАЛІТЫКА

Я прыйшоў да высновы, што апагеем палітычнае кар'еры Вінцука Вячоркі было месца карэктара пры прэсавым сакратару Зянона Пазьняка.

## прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Аскепку!** Віншую! Ты не памыліўся. Маленькая

**Мікіта Белікаў!** Віншуем з народзінамі! Вучы правапіс! Посьпехаў!

**Коціка** з Днём народзінаў! Простага кацінага шчасьця, здароўя і ўсяго-ўсяго-ўсяго! Кася

**Зорны Агеньчыку, Сонейка!** З надыходам вясны Вас, шчасьця і цеплыні, плёну ў працы. Абдымаю. Маранава Тацяна

**Паважаная рэдакцыя!** Цудоўнай Вам вясны!

**Астапчыку!** Віншуем цябе з народзінамі! Жадаем салодкіх сноў і шчасьця. Янка, Вэраніка, Натальля, Наста і інш.

**Любы Міхале!** Віншую з чарговымі народзінамі. Шчасьця, каханьня і посьпехаў. Каня

### ідэі

**"Зубры"**, вы хто, вы што, вы адкуль?! Зорра. sviszone@usa.net

**Прэзыдэнтам** у 2001 годзе будзе абраны спадар Зянон Пазьняк. Жодзінцы

**Ні "Фронт"**, ні "Бог", ні цёмны лес – адна надзея – БПС! Той, хто робіць

**Аддам ахвотным** старую папсаваную габарытную друкарку "Ятрань". Транспарт намаганьнямі ахвотных. Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

**Шукаю якасны запіс** музыкі і песень зь фільмаў "Господин оформитель" і "Вяртаньне Эманюэль". Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

**Шукаю музыкаў** для супольнай работы над маімі песьнямі. Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

### кнігі, музыка, пэрыёдыка

**Альбом гурту Стары Ольса** "Келіх Кола", CD "Я нарадзіўся тут", кнігі, нефармальныя часопісы, відэафільм "Звычайны прэзыдэнт" і многае іншае шукайце на Румянцава, 13 (выстава ТБМ) з 11.30 да 19.00, апроч выходных

**Пятнаццатая кніга** сэрыі "Беларускі кнігазбор" – Мікалай Улашчык – да 95-х угодкаў славутага патрыёта. Т.: (017) 220-70-27

**Беларускае аўдыё** вось дзе: пераход ст.м. "Інстытут культуры", пераход ст.м. "Кастрычніцкая", к/з "Менск" (ст.м. "Першамайская"), "Карона" (Сурганава/Коласа), "Галерэя мастацтва" (ст.м. "Плошча Я. Коласа"), ТБМ (ст.м. "Плошча Перамогі"). Т.: 213-43-52

**Бясплатны каталёг** "Відэа па-беларуску"! Дашліце чыстую капэрту ды купон б/а. 220107, Менск, а/с 150

**Набуду кнігі** "Меншчына ў легендах і паданьнях" і трэцюю кнігу "Беларускіх народных прыкмет і павер'яў". Т.: 249-23-25 (Андрусь)

**Аўтарам і выдаўцам** дапамагу рэалізаваць беларускую літаратуру, аўдыё, відэа. ДК Трактарнага заводу, штонядзелю, з 10.00 да 14.00

**"Хто ёсьць хто сярод беларусаў сьвету"**, М.Раманюк "Беларускія народныя крыжы" ў ДК Трактарнага заводу штонядзелю з 10.00 да 14.00

**Кнігі М.Ермаловіча** "Беларуская дзяржава ВКЛ", К.Тарасава "Памяць пра легенды". ДК Трактарнага заводу, сэктар беларускай літаратуры

**Кампакт-дыск "Жывем!"** – песьні "Песьняроў" на вершы Ларысы Геніюш. Укладка па-расейску, акрамя тэкстаў песень. 220107, Менск, а/с 150. Т.: (017) 213-43-52, 240-78-01

**Нацыяналісты і традыцыяналісты,** паганцы і нехрышчонікі! Чытайце часопіс KRYUJA. Часопіс зьмяшчае артыкулы, прысьвечаныя традыцыйнай беларускай культуры, дасьледзінам паганства, індаэўрапеістыцы і археалёгіі. Усе 3 выпускі (за 1994, 1996 і 1998 г.) ёсьць на кніжнай выставе ТБМ (вул. Румянцава, 13) і ва ўправе БНФ. Пытайцеся таксама праз e-mail <kryuja@crosswinds.net>

### купоны

**Мяняю** маркі з нацыянальнай сымболікай на купон б/а "Нашай Нівы", "Звязды". ДК Трактарнага заводу штонядзелю з 10.00 да 14.00

## *Падпішы сябра*

На гэтым тыдні грошы на падпіску тым чытачам "НН", якія ня маюць за што падпісаць газэту самі, ахвяраваў **сп.Aleks.**

### Кошты на платныя прыватныя абвесткі:

— да 20 словаў (тэкставы модуль) — 105 руб.
— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — 132 руб.
— афармленая абвестка — 66 руб. за кв.см.
— афармленая абвестка — памерам больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету — ад 87 руб. за 1 кв.см.

За абвесткі пра сямейныя падзеі — зьніжка.

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў мусяць аплочвацца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак.

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанк» Менску, код 763. **На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі й абавязкова дадаецца сказ: «За рэклямныя паслугі».**

## паштовая скрынка

**Бярнарду П. з Буйкоў.** Наш погляд на пэрспэктывы польскага руху не супадае з Вашым.

**Ігару Д. зь Віцебску.** Тэлефон выдавецтва замкавае сэрыі 250-85-96.

**Максіму І. зь Менску.** Вашаму допісу не стае цэльнасьці. Апошні сказ мог бы стацца тэмай для асобнага артыкулу.

**Г.Ту-чу з Гомеля.** Ліст пра Сапегу перадалі аўтару "Барысовай долі".

**Валянціне Г. зь Бешанковічаў.** "Вершы на Свабоду" можна дасылаць на адрас рэдакцыі "НН". Індэкс Радыё Свабода ёсьць у іхнай рэклямцы – паштовая скрынка.

**Людміле Г. зь Менску.** Гэткую анатацыю перадайце ў "ЛіМ".





**НАША НІВА**
**незалежная газэта**
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906–1914), Янка Купала (1914–1915), С.Дубавец (1991–2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| карэктарка | Віялета Кавалёва |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://members.nbci.com/nasa_niva/**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 3710.
Нумар падпісаны ў друк 25.2.2001.
Замова № 1094.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а

НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

____________________________________

Імя і прозьвішча ______________________

Адрас, тэлефон ______________________